THE DANISH
INSTITUTE FOR
HUMAN RIGHTS

# ПРАВЫ ДЗІЦЯЦІ Ў НАВУЧАЛЬНЫМ ПРАЦЭСЕ

## МЕТАДЫЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ



# ЗМЕСТ

## ТЫПЫ ПРАКТЫКАВАННЯЎ

| ПАДРЫХТОЎКА І ПЛАНАВАННЕ | ГРУПАВОЕ ПРАКТЫКАВАННЕ | ЧЫТАННЕ | ПІСЬМО | АБМЕРКАВАННЕ | ТВОРЧАСЦЬ | РУХ |
|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  |  |  |  |  |  |





## МЭТЫ НАВУЧАННЯ Ў МЕЖАХ ПРАКТЫКАВАННЯЎ ПА ТЭМАХ

| ПРАВЫ | ВЕДЫ | АДНОСІНЫ І КАШТОЎНАСЦІ | НАВЫКІ |
|---|---|---|---|
| • Правы ўсіх дзяцей | • Правы паводле Канвенцыі аб правах дзіцяці<br>• Правы і правілы, якія павінны забяспечыць бяспеку дзяцей і садзейнічаць іх дабрабыту ва ўсім свеце | • Усе мы валодаем аднолькавымі правамі<br>• Усе правы маюць роўнае значэнне<br>• Павага да агульных правілаў<br>• Адказнасць за свае дзеянні<br>• Сацыяльная адказнасць<br>• Успрыманне сябе як грамадзяніна свету | • Уменне адрозніваць жаданні, патрэбы і правы<br>• Уменне вызначаць, калі парушаюцца ўласныя і чужыя правы<br>• Уменне аналізаваць правы і сумесную адказнасць у розных сітуацыях |
| • Права на роўнае абыходжанне і абарону ад дыскрымінацыі<br>• Абарона дзяцей з інваліднасцю<br>• Абарона меншасцяў | • Ідэнтычнасць<br>• Перадузятасць<br>• Разнастайнасць<br>• Дыскрымінацыя і недыскрымінацыя | • Адчуванне прыналежнасці да разнастайнай супольнасці ў класе<br>• Вера ў свае магчымасці ўплываць на супольнасць<br>• Павага да разнастайнасці<br>• Прыняцце разнастайнасці | • Суперажыванне, талерантнасць і шчырасць<br>• Навыкі міжасабовых зносінаў<br>• Уменне даваць і атрымліваць прызнанне<br>• Уменне вызначаць перадузятасць<br>• Уменне слухаць і паважаць меркаванне іншых<br>• Мужнасць у выказванні свайго меркавання<br>• Пазітыўны падыход да вырашэння канфліктаў |
| • Права на адукацыю<br>• Права на адпачынак і вольны час<br>• Права на абарону ад эксплуатацыі дзіцячай працы<br>• Права жыць з бацькамі<br>• Права на ахову здароўя і абарону ад наркотыкаў<br>• Права на абарону ад сэксуальнага гвалту | • Што важна для развіцця<br>• Разуменне таго, што такое здаровы/нездаровы лад жыцця<br>• Разуменне межаў таго, як іншыя павінны ставіцца да цябе і твайго цела | • Адукацыя, гульні і здароўе маюць важнае значэнне для майго развіцця<br>• Маё цела належыць мне | • Уменне патрабаваць добрыя ўмовы навучання<br>• Уменне выбіраць, што павінна быць у меню здаровага абеду<br>• Разуменне таго, дзе можна атрымаць дапамогу, калі існуюць падазрэнні або сведчанні парушэнняў |
| • Права быць пачутым<br>• Права на ўдзел<br>• Права выказваць свае думкі і ўменне іх выказваць<br>• Права на доступ да інфармацыі | • Дэмакратыя ў школе<br>• Дэмакратыя на мясцовым узроўні<br>• Дэмакратыя ў Беларусі<br>• Розныя формы кіравання<br>• Не маўчы (ведай, як уплываць)<br>• Працэсы прыняцця рашэнняў | • Павага да агульных правілаў<br>• Вера ў тое, што разам з іншымі можна змяніць сітуацыю і ўплываць на правілы і іншыя ўмовы | • Уменне слухаць іншых<br>• Уменне фармуляваць уласны пункт гледжання і абараняць яго<br>• Уменне ўдзельнічаць у групах і арганізоўваць іх<br>• Уменне працаваць з іншымі дзеля дасягнення агульнай мэты<br>• Адказнасць за актыўнасць у школе, сям'і, вольны час ці мясцовай супольнасці |

ПРАВЫ ДЗІЦЯЦІ Ў НАВУЧАЛЬНЫМ ПРАЦЭСЕ

Адказныя за выпуск: Алена Лапцёнак, Беларусь
Яўгенія Кляменцьева, Дацкі інстытут па правах чалавека

Рэдактарка: Сігрыд Крыстыянсэн, Дацкі інстытут па правах чалавека

Аўтарка: Марыя Лёке Расмусэн, Learn | Right
Марыя Лёке Расмусэн з’яўляецца аўтаркай англійскага тэкста, які быў пакладзены
ў аснову гэтага дапаможніка, але не мае дачынення да перакладу выдання на беларускую/рускую мовы

Дапамога ў падрыхтоўцы дапаможніка: Сігрыд Крыстыянсэн, Дацкі інстытут па правах чалавека

Дапамога ў вывучэнні тэмы: Карэн Дам-Отэсэн, Алена Лапцёнак

Выказваем падзяку дзесяці беларускім настаўнікам, якія бралі ўдзел у сустрэчы
па падрыхтоўцы выдання і дапамагалі аўтарам каштоўнай інфармацыяй.
Вашая дапамога была вельмі карыснай.

Пераклад на беларускую і рускую мовы: Канстанцін Старадубец

Рэдагаванне і карэктура беларускай версіі: Алена Лапцёнак
Рэдагаванне і карэктура рускай версіі: Яўгенія Кляменцьева, Дацкі інстытут па правах чалавека

ISBN: 978-87-93241-90-9

Макет: Віктар Корзун



Нацыянальны інстытут па правах чалавека Даніі
Wilders Plads 8K
DK-1403 Copenhagen K
Тел: + 45 32 69 88 88
www.humanrights.dk

На вокладцы - твор майстра выцінанкі Вячаслава Дубінкі (1941-2010), сябра чатырох творчых саюзаў Беларусі: журналістаў, народных майстроў, мастакоў і пісьменнікаў.



Дацкі інстытут па правах чалавека мае досвед публікацыі дапаможнікаў па правах дзяцей.
У прыватнасці, гэты дапаможнік заснаваны на выданні, падрыхтаваным для школ у Грэнландыі,
аднак ён быў перапрацаваны і адаптаваны да беларускіх рэалій.





# ЯК КАРЫСТАЦЦА ДАПАМОЖНІКАМ

Гэты метадычны дапаможнік складаецца з даведачнай інфармацыі, практыкаванняў і методык, якія дазваляюць вам, як настаўнікам:
• планаваць вучэбныя праграмы па тэме правоў дзяцей;
• абмяркоўваць і планаваць стварэнне атмасферы ў класе, якая б спрыяла павазе да правоў вучняў;
• узмацняць правы дзяцей, вучнёўскія рады, а таксама пашыраць удзел вучняў і бацькоў у жыцці школы.

Матэрыялы дапаможніка арыентаваны на настаўнікаў сярэдняй школы, якія працуюць з вучнямі 8–11-х класаў, але могуць быць адаптаваныя для іншых класаў.



## ЗМЕСТ

Тут вы знойдзеце апісанне практыкаванняў і матэрыялаў дапаможніка. Ён складаецца з раздзелаў па падрыхтоўцы і планаванні, а таксама з раздзелу практыкаванняў. Практыкаванні падзяляюцца на чатыры тэмы па правах дзяцей, якія знаёмяць вучняў з Канвенцыяй аб правах дзіцяці і трыма ключавымі прынцыпамі Канвенцыі з дапамогай інтэрактыўных метадаў навучання.

Для кожнай тэмы пададзены яе кароткі змест і агульныя мэты навучання, а таксама тыпы методык, якія прымяняюцца ў розных практыкаваннях, і іх працягласць.

Выберыце практыкаванні, якія найлепей адпавядаюць патрэбам вашага класа і наяўнаму часу.

Вы можаце выкарыстоўваць формы планавання як прыклад для планавання вашай уласнай праграмы.



## ФОРМА ПАДРЫХТОЎКІ

Адкажыце на пытанні, каб атрымаць уяўленне аб тэмах, на якіх вы хочаце засяродзіцца на сваіх занятках, і вырашыце, як уключыць правы дзяцей у расклад заняткаў.



## ФОРМА ПЛАНАВАННЯ

Запоўніце форму планавання, каб атрымаць уяўленне аб праграме навучання правам дзяцей, што дапаможа вам прыцягнуць да гэтага працэсу бацькоў. Складзіце праграму, выкарыстоўваючы практыкаванні з дапаможніка і маленькія прэзентацыі да і пасля практыкаванняў.

## ФОРМА ДЗЕЯННЯ

Гэтая частка падкажа вам, як дапамагчы тым вучням, якія маюць патрэбу ў дапамозе. Акцэнт зроблены на гутарцы і сувязях з мясцовымі ўладамі.



## ДАВЕДКА

Гэтая інфармацыя дапаможа паглыбіць разуменне правоў чалавека, і, у прыватнасці, правоў дзяцей.



# ПРАДМОВА

Адукацыйны працэс адыгрывае найважнейшую ролю ў станаўленні асобы кожнага чалавека. Якімі менавіта грамадзянамі стануць прадстаўнікі сённяшняй моладзі, у поўнай меры залежыць ад тых каштоўнасцяў, навыкаў, ведаў і ўстановак, якія яны атрымаюць у перыяд сталення. Адной з найважнейшых установак у станаўленні адказных членаў грамадства з'яўляецца ўсведамленне сябе як носьбіта правоў і абавязкаў, разуменне таго, як карыстацца сваімі правамі і як не парушаць правы іншых. Адукацыя ў галіне правоў чалавека накіравана менавіта на тое, каб прышчапляць дзецям усвядомленае стаўленне да правоў і абавязкаў і даваць ім навыкі, неабходныя для рэалізацыі актыўнай і ўсвядомленай грамадзянскасці.

Асяроддзе, у якім адбываецца адукацыйны працэс, не менш важнае для эфектыўнага і паспяховага навучання. Адукацыя ў галіне правоў чалавека прапануе набор інструментаў, які дапаможа і навучэнцам, і адказным за адукацыйны працэс стварыць такое асяроддзе навучання, дзе няма месца дыскрымінацыі, булінгу і іншым бар'ерам навучання.

Гэтае выданне дапаможа арганізатарам адукацыйнага працэсу ў школах і іншых адукацыйных установах дасягнуць вынікаў у выхаванні новага пакалення адказных грамадзян і стварэнні аптымальнага асяроддзя навучання, аб якім бы прадмеце ні ішла гаворка.

Добрага чытання!

Ёнас Крыстоферсан,

дырэктар
Дацкага інстытута па правах чалавека

ЧЫТАННЕ



# УВОДЗІНЫ — НАВУЧАННЕ ПРАВАМ ДЗЯЦЕЙ



## ШТО ТАКОЕ ПРАВЫ ДЗЯЦЕЙ?

Усе людзі маюць аднолькавыя базавыя патрэбы, незалежна ад узросту, полу, колеру скуры, рэлігіі, нацыянальнасці і месца жыхарства, а таксама любых іншых прыкметаў. Гэтыя патрэбы ўключаюць у сябе, сярод іншага, патрэбу ў ежы, жыллі, адукацыі, ахове здароўя і абароне ад дыскрымінацыі і гвалту ў любой форме, а таксама свабоду думкі, слова, рэлігіі, сходаў і перамяшчэння, а таксама права на справядлівае судовае разбіральніцтва.

Неўзабаве пасля заканчэння Другой сусветнай вайны (у 1948 годзе) Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый (ААН) была прынята *Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека*, якая абвясціла, што ўсе людзі маюць права, каб іх базавыя патрэбы былі задаволеныя. Дэкларацыя заснавана на разуменні таго, што людзі, чые базавыя патрэбы не задавальняюцца, не толькі пакутуюць, але таксама больш схільныя ўступаць у такія канфлікты, як войны.

Услед за Дэкларацыяй Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый быў прыняты шэраг міжнародных правілаў (вядомых як Канвенцыі), якія тычацца правоў чалавека.
Яны звязаныя з правамі канкрэтных уразлівых групаў або ключавымі праблемамі ў галіне правоў чалавека.

*Канвенцыя аб правах дзіцяці ААН* з'яўляецца адной з дзевяці асноўных міжнародных канвенцый па правах чалавека, якія таксама называюць дамовамі. Яна была прынята 20 лістапада 1989 года. Беларусь ратыфікавала Канвенцыю аб правах дзіцяці ў 1990 годзе і тым самым пагадзілася абараняць правы дзяцей у адпаведнасці з гэтым дакументам.

Канвенцыя апісвае правы, якія з'яўляюцца асабліва важнымі для абароны дзяцей і іх развіцця, роўнасці і ўдзелу ў дэмакратычных працэсах.

*Кароткі змест Канвенцыі аб правах дзіцяці вы знойдзеце ў раздзеле «Даведка»*

## НАВОШТА ТРЭБА ВЫКЛАДАЦЬ ПРАВЫ ДЗЯЦЕЙ?

Падпісаўшы *Канвенцыю аб правах дзіцяці*, Беларусь пагадзілася імкнуцца да пашырэння ведаў аб Канвенцыі сярод дарослых і дзяцей (артыкул 42). Акрамя таго, Беларусь пагадзілася, што навучанне дзяцей павінна быць накіравана на *«развіццё павагі да правоў чалавека і асноўных свабодаў»*, а таксама *«падрыхтоўку дзіцяці да свядомага жыцця ў свабодным грамадстве ў духу разумення, міру, цярпімасці, раўнапраўя мужчын і жанчын і сяброўства паміж усімі народамі, этнічнымі, нацыянальнымі і рэлігійнымі групамі і асобамі з ліку карэннага насельніцтва»*, як гаворыцца ў артыкуле 29 Канвенцыі.

*Кодэкс аб адукацыі* Рэспублікі Беларусь, прыняты ў 2011 годзе, пацвярджае абавязак дзяржавы прымяняць правы чалавека ў школе і ўсёй сістэме адукацыі, заяўляе, што прынцыпы палітыкі ў сферы адукацыі павінны *«[быць заснаванымі на] прыярытэце агульначалавечых каштоўнасцяў, правоў чалавека, гуманістычным характары адукацыі»* (артыкул 2).

Такім чынам, выкладаючы правы дзяцей на вашых занятках, вы будзеце спрыяць выкананню міжнародных абавязацельстваў Беларусі, а таксама нацыянальнага заканадаўства вашай краіны.

Акрамя таго, навучанне правам дзяцей дапаможа вашым вучням ведаць свае правы, разумець, як да іх трэба ставіцца і як яны мусяць ставіцца да іншых. Навучанне ў галіне правоў дзяцей дазволіць вучням вывучаць, абмяркоўваць, мяняць і развіваць свае ўласныя меркаванні і каштоўнасці. Яно можа дапамагчы вучням выпрацаваць павагу і разуменне да іншых людзей, а таксама цярпімасць да розных меркаванняў і знешніх праяваў.
Яно дапаможа атрымаць навыкі ўдзелу ў сацыяльных адносінах, дэмакратычных супольнасцях, а таксама ўменне браць на сябе адказнасць і дзейнічаць дзеля дасягнення поспеху ў жыцці.

Вашы вучні могуць выкарыстоўваць гэтыя навыкі як у класе, так і наогул у школе, дома і ў будучым жыцці. Акрамя таго, навучанне ў галіне правоў дзяцей дапамагае паменшыць выпадкі здзекаў, спрые павышэнню дзіцячай самаацэнкі, робіць дзяцей больш устойлівымі да сэксуальнага і фізічнага гвалту, а таксама дапаможа падрыхтаваць іх да ўдзелу ў дэмакратычных працэсах.

## КАЛІ ВЫКЛАДАЦЬ ПРАВЫ ДЗЯЦЕЙ?

Адукацыя ў галіне правоў чалавека — гэта няспынны працэс, накіраваны на пастаяннае ўдасканаленне ведаў, навыкаў і паводзінаў дзеля абароны сваіх правоў і павагі да правоў іншых. Важна, каб дзеці атрымлівалі веды аб правах дзіцяці яшчэ ў самым раннім узросце, на працягу ўсёй адукацыі і далей у жыцці.
*Дэкларацыя аб адукацыі і падрыхтоўцы ў галіне правоў чалавека*, прынятая ў 2011 годзе, заклікае спрыяць адукацыі ў галіне правоў чалавека ва ўсім свеце[1].

Адукацыя ў галіне правоў дзяцей можа быць уключана і інтэгравана практычна ва ўсе прадметы: у якасці складніка ведаў, а таксама як практычная частка з пункту гледжання методыкі, якую вы прымяняеце, і асяроддзя для навучання, якое вы ствараеце.

Некаторыя прадметы ў сярэдняй школе ў Беларусі непасрэдна вывучаюць правы чалавека і правы дзяцей. Сярод іх «Грамадазнаўства», «Гісторыя», неабходная метадычная база прадугледжаная ў межах прадметаў «Чалавек і свет», «Сусветная гісторыя» і «Гісторыя Беларусі», а таксама на ўроках роднай і замежнай моваў, на факультатыўных уроках і ў час пазашкольных мерапрыемстваў. Тым не менш сярод іншых прыкладаў па ўсім свеце таксама ёсць урокі біялогіі і матэматыкі. Таму не саромейцеся працаваць з правамі дзяцей на сваіх занятках. Вы можаце таксама распрацаваць праграму факультатыва па тэме.

У змесце вы знойдзеце мэты навучання па тэмах, якія разглядаюцца ў гэтым дапаможніку.
Некаторыя з іх наўпрост звязаныя з мэтамі канкрэтных прадметаў.











## ЯК НАВУЧЫЦЦА ВЫКЛАДАЦЬ ПРАВЫ ДЗЯЦЕЙ?

Навучэнцам недастаткова проста ***ведаць*** пра правы дзяцей, яны таксама павінны быць у стане ***дзейнічаць*** у адпаведнасці з гэтымі ведамі дзеля адстойвання сваіх правоў, а таксама павагі і абароны правоў іншых. Дзеля дасягнення гэтай мэты вучням патрэбныя ***навыкі***, з дапамогай якіх яны змогуць прымяняць, заахвочваць і абараняць правы чалавека, а таксама адпаведныя ***каштоўнасці і ўстаноўкі***.

Такім чынам, важна, каб настаўнікі і школы разглядалі правы дзяцей у больш шырокім сэнсе, чым проста тэму, якую вучні мусяць ***вывучаць*** у межах пэўных прадметаў. Правы дзяцей павінны таксама быць больш шырока адлюстраваны ў методыках выкладання, якімі карыстаюцца настаўнікі, у асяроддзі на ўроку, а таксама ў школьным асяроддзі. Акрамя таго, ***праз*** павагу да правоў чалавека ў класе настаўнікі ***дапамагаюць*** вучням лепш ведаць і карыстацца сваімі ўласнымі правамі, а таксама паважаць правы іншых[2]. Гл. апісанне і ўзаемасувязі паміж рознымі ўзроўнямі навучання ў дыяграме ніжэй.

На практыцы гэта азначае, што мы, як настаўнікі, павінны прытрымлівацца наступных праваабарончых прынцыпаў:

**Удзел і пашырэнне магчымасцяў**
- прымяняйце інтэрактыўныя методыкі, якія ўзбагачаюць вопыт, веды і аналітычныя здольнасці вучня;
- заахвочвайце актыўны ўдзел і адказнасць вучняў;
- стварайце ўмовы для выказвання думак і ідэй, забяспечце кожнаму права быць пачутым.

**Кантроль**
- стаўце выразныя мэты навучання і кантралюйце іх выкананне; рэагуйце на патрэбы навучэнцаў;
- вучыце прыкладам — падмацоўвайце словы справамі;
- прытрымлівайцеся раскладу і ўзгодненых правілаў;
- падзяляйце з вучнямі адказнасць за ход навучання і вучэбнае асяроддзе.

**Недапушчэнне дыскрымінацыі, роўнасць і ўразлівыя групы насельніцтва**
- улічвайце пытанні роўнасці пры пастаноўцы мэтаў, падзеле вучняў на групы і г.д.;
- інтэгруйце навучэнцаў з асаблівымі патрэбамі;
- стварайце ўмовы, дзе ўсе маюць роўныя магчымасці для ўдзелу;
- паважайце культурную разнастайнасць, змагайцеся з дыскрымінацыйнымі стэрэатыпамі і перадузятасцю сярод вучняў і настаўнікаў;
- роўнае стаўленне да ўсіх вучняў не заўжды азначае аднолькавае абыходжанне.

**Сувязь з сістэмай правоў чалавека**
- спасылайцеся на Канвенцыю аб правах дзіцяці, а таксама на міжнародную, рэгіянальную і нацыянальную сістэмы абароны правоў чалавека (гл. раздзел «Даведка») у мэтах і змесце навучання;
- прытрымлівайцеся комплекснага падыходу да правоў чалавека, у тым ліку падкрэсліваючы іх універсальнасць, неад'емнасць, непадзельнасць, узаемазалежнасць і ўзаемасувязь;
- выкладайце гісторыю правоў чалавека і іх шырокі гістарычны фон у галіне філасофіі, рэлігіі, права і палітыкі.[3]

*Форма падрыхтоўкі «Правы дзяцей у класе» можа дапамагчы вам стварыць адпаведную атмасферу ў класе і паставіць мэты для вашага плана навучання правам дзяцей.*

**Дыяграма 1**
Узроўні навучання правам чалавека і іх узаемасувязь



СТАРОНКА ДЛЯ КАПІРАВАННЯ

ЧЫТАННЕ  ПІСЬМО 

# ФОРМА ПАДРЫХТОЎКІ — ПРАВЫ ДЗЯЦЕЙ У КЛАСЕ





**Мэта:** Вы, як настаўнік, мусіце стварыць такую атмасферу ў класе, якая б не парушала правы дзяцей і дапамагала вучням атрымаць веды пра свае правы.

**Як:** Зрабіце копію гэтай формы і адкажыце на пытанні. Вы можаце абмеркаваць іх з калегамі.

Пасля завяршэння курсу вы можаце ацаніць вынікі з дапамогай пытанняў, каб пабачыць, якія з яго частак былі найбольш паспяховыя[4].

## УМАЦАВАННЕ РАЗУМЕННЯ ВУЧНЯМІ СВАІХ ПРАВОЎ:

Дзеці маюць права ведаць Канвенцыю аб правах дзіцяці і правы, якімі валодаюць дзеці.
*Як настаўнік, вы несяце адказнасць за тое, каб вучні ведалі аб Канвенцыі і аб тым, як выкарыстоўваць свае правы ў паўсядзённым жыцці.*

У якой ступені вы працавалі з правамі дзяцей на вашых уроках?

| Зусім не | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | У значнай ступені |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

- Што б вы палепшылі ў будучыні? Што вы абавязкова будзеце працягваць рабіць?
- Што вы можаце зрабіць, каб умацаваць веды сваіх вучняў па тэме Канвенцыі аб правах дзіцяці, іх каштоўнасці ў дачыненні да правоў дзяцей і навыкі па абароне сваіх правоў?

........................................................................................................................................

## УМАЦАВАННЕ АБАРОНЫ І РАЗВІЦЦЯ ВУЧНЯЎ:

Дзеці маюць права на задавальненне сваіх базавых патрэбаў, у тым ліку патрэбаў у жыллі, харчаванні і здароўі. Яны таксама маюць права на абарону ад фізічнага, псіхалагічнага і сэксуальнага гвалту, а таксама ад эксплуатацыі дзіцячай працы. Дзеці маюць права на вольны час, адпачынак і адукацыю. Як настаўнік вы абавязаны паведаміць уладам, калі ў вас ёсць падазрэнне, што дзіця жыве ва ўмовах, якія пагражаюць яго здароўю або развіццю (гл. форму дзеяння).

У якой ступені вы дасведчаны аб дабрабыце вашых вучняў дома і ў вольны час?

| Зусім не | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | У значнай ступені |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

- Што б вы палепшылі ў будучыні? Што вы абавязкова будзеце працягваць рабіць?
- Што вы можаце зрабіць, каб умацаваць разуменне вучняў аб іх праве на абарону і развіццё, а таксама дапамагчы ім у выпадку неабходнасці?

........................................................................................................................................

## УМАЦАВАННЕ ЎДЗЕЛУ ВУЧНЯЎ:

Дзеці маюць права быць пачутымі і ўплываць на прыняцце рашэнняў, якія тычацца іх. Калі дзеці будуць актыўнымі грамадзянамі, іх меркаванні павінны быць улічаныя — як і тады, калі яны не ўпісваюцца ў стэрэатыпнае мысленне.
У якой ступені вы прыцягваеце вучняў у прыняцце рашэнняў на ўроку і ў ажыццяўленні вучэбных планаў?

| Зусім не | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | У значнай ступені |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

- Што б вы палепшылі ў будучыні? Што вы абавязкова будзеце працягваць рабіць?
- Што б вы зрабілі, каб пазнаёміць вучняў з прынцыпамі дэмакратычнага кіравання ў школе і спосабамі ўплыву на жыццё грамадства?

........................................................................................................................................

## УМАЦАВАННЕ ВЕДАЎ АБ РОЎНЫМ АБЫХОДЖАННІ:

Дзеці маюць права на абарону ад дыскрымінацыі, незалежна ад іх полу, інваліднасці, культуры, рэлігіі, эканомікі і г.д. Прыняцце і роўны ўдзел вучняў, незалежна ад іх паходжання, а таксама ўзаемная павага сярод вучняў маюць важнае значэнне для дабрабыту дзяцей і развіцця іх як часткі грамадства.

Наколькі добра вы забяспечылі роўны ўдзел вучняў незалежна ад іх полу, паходжання, мовы і здольнасцяў?

| Зусім не | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | У значнай ступені |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

- Што б вы палепшылі ў будучыні? Што вы абавязкова будзеце працягваць рабіць?
- Што б вы зрабілі, каб палепшыць самаацэнку, талерантнасць і суперажыванне вучняў?[5]

........................................................................................................................................

СТАРОНКА ДЛЯ КАПІРАВАННЯ

ПІСЬМО







# ФОРМА ПЛАНАВАННЯ — ПЛАН КУРСУ

**Мэта:** Гэтая форма дапаможа вам распрацаваць праграму курсу, якая найлепш адпавядае вашаму прадмету[6]. Зрабіце копію і запоўніце форму.

**ПЛАНАВАННЕ**

1. Якія мэты навучання ў галіне правоў найбольш адпавядаюць вашым вучням? ............

2. Што вашы вучні ведаюць пра свае правы?
Мае вучні ведаюць: ............
Мае вучні добра ўмеюць: ............

3. Апішыце мэты навучання вашага курсу.
*Гл. апісанне мэтаў навучання*
Агульныя мэты навучання: ............
Што мае вучні мусяць ведаць? ............
З якімі каштоўнасцямі і ўстаноўкамі мусяць працаваць вучні? ............
............
Якія навыкі мусяць вучні набыць? ............
............

4. Якую працягласць мусіць мець курс і ў межах якіх прадметаў ён мае выкладацца? ............

5. Якія класы і настаўнікі мусяць/могуць у гэтым удзельнічаць? ............

6. Як вы забяспечыце ўдзел бацькоў? ............
*Гл. наступную старонку*

**ЗМЕСТ КУРСУ**

7. План курсу

*Вось прыклад курсу меншай працягласці.*

*Выберыце практыкаванні, якія адпавядаюць вашым мэтам.*

*Адсартуйце практыкаванні па тэмах і забяспечце разнастайнасць тыпаў дзейнасці*

| КУРС | ПРАЦЯГЛАСЦЬ | ПРАКТЫКАВАННЕ | ТЫП |
|---|---|---|---|
| **Уводзіны** | 1 урок<br>1 урок | Дабрабыт дзіцяці<br>Мая канстытуцыя – мае правы | Абмеркаванне, пісьмо, творчасць<br>Абмеркаванне, пісьмо, творчасць |
| **ТЭМА 1: Права на абарону ад дыскрымінацыі...** | 1–2 урокі | Аўтапартрэт і групавы партрэт | Абмеркаванне, творчасць |
| **ТЭМА 2: Права на абарону...** | 1 урок<br>1 урок | Добрая школа<br>Гвалт і жорсткае абыходжанне | Абмеркаванне, творчасць<br>Абмеркаванне, творчасць |
| **ТЭМА 3: Права на ўдзел** | 1 урок<br>1 урок<br>1 урок | Пабудуем горад<br>Канстытуцыя класа<br>План змяняецца | Абмеркаванне, творчасць, рух<br>Абмеркаванне, творчасць<br>Абмеркаванне, пісьмо, рух |
| **Завяршэнне** | 1 урок | Што я даведаўся? | Абмеркаванне, пісьмо, творчасць |

**АЦЭНКА**

8. Як прайшоў курс? ............

9. Як вы будзеце працягваць умацоўваць правы дзяцей на ўроку? ............
*Вярніцеся да формы падрыхтоўкі*
............

## СТАРОНКА ДЛЯ КАПІРАВАННЯ









# ФОРМА ПЛАНАВАННЯ — УДЗЕЛ БАЦЬКОЎ

**Мэта:** Пажадана прадугледзець пры планаванні праграмы курсу па правах дзяцей удзел бацькоў вашых вучняў. Бацькі адыгрываюць ключавую ролю ў адстойванні правоў дзяцей. Яны могуць дапамагчы ў працэсе навучання. Магчыма, яны па сваёй працы або ў вольны час маюць справу з тэмамі, якія вы плануеце ўключыць у свае ўрокі. Яны таксама могуць дапамагчы ў арганізацыі экскурсій[7].

| | | |
|---|---|---|
| **КАНЦЭПЦЫЯ** | 1. Што, на вашу думку, бацькі ведаюць аб правах дзяцей, а чаго не ведаюць? | ............ |
| | 2. Чым вы хацелі б падзяліцца з бацькамі? | Навыкі: ............<br>Каштоўнасці: ............<br>Адносіны: ............ |
| | 3. Якой вы бачыце дапамогу бацькоў у рэалізацыі курсу навучання? | ............ |
| | 4. Калі варта ладзіць сустрэчу(ы) з бацькамі? | Напрыклад, адна напачатку і адна напрыканцы курсу.<br>............ |
| | 5. Пытанні для абмеркавання | Якія пытанні і да чаго яны мусяць прывесці: ............<br>У якім парадку? ............ |
| | 6. Удзел вучняў | Ці варта вучням удзельнічаць у сустрэчах і планаванні? Калі так, то як? ............<br>............<br>............ |
| | 7. Выберыце некалькі тэставых практыкаванняў | ............ |
| | 8. Напішыце запрашэнне | Не забывайце наступнае: чаму вы запрасілі бацькоў, што яны атрымліваюць ад сустрэчы(аў), дзе, калі і як доўга? Напішыце арыгінальнае запрашэнне з выкарыстаннем ілюстрацый і сімвалаў.<br>............ |

**ПЛАНАВАННЕ**

9. Складзіце праграму сустрэчы

*Вось прыклад праграмы.*

*Падчас сустрэчы:*
- *Не забудзьце асабіста павітацца з кожным*
- *Зрабіце бацькам камфортныя ўмовы*
- *Дазвольце кожнаму выступіць*
- *Прытрымлівайцеся праграмы і сачыце за часам*

| ПРАГРАМА | ЧАС | ДЗЕЙНАСЦЬ |
|---|---|---|
| **Уводзіны** | 20 хв. | • Вітанне і ўводзіны<br>• Хто мы, чаму мы тут, праграма<br>• Бацькі прадстаўляюць сябе і абмяркоўваюць у парах свае чаканні |
| **Пытанне 1** | 20 хв. | • Што такое правы дзяцей? |
| **Пытанне 2** | 20 хв. | • Правы дзяцей у школе і дома<br>• Абмеркаванне ў парах і агульная дыскусія |
| **Перапынак** | 15 хв. | |
| **Пытанне 3** | 20 хв. | • Урок па правах дзяцей<br>• Што вы запланавалі?<br>• Як бацькі могуць дапамагчы? |
| **Падсумаванне** | 20 хв. | Высновы і ацэнка |

10. Абдумайце дэталі — Напрыклад: месца, размяшчэнне ўдзельнікаў, знешні выгляд памяшкання, харчаванне (напрыклад, агульны абед да або пасля сустрэчы) і г.д.

............

**ВЫСНОВЫ**

11. Напішыце рэзюмэ
- Максімум 2 старонкі памерам А4
- Пры неабходнасці звярайцеся з праграмай
- Выкарыстоўвайце ілюстрацыі і сімвалы

Асноўныя пытанні і прынятыя рашэнні: ............

# СТАРОНКА ДЛЯ КАПІРАВАННЯ

ЧЫТАННЕ







## ФОРМА ДЗЕЯННЯ — КАЛІ ВУЧНЮ ПАТРЭБНАЯ ДАПАМОГА

Падчас працы з правамі дзяцей у класе вы можаце сутыкнуцца з сітуацыяй, калі вучню патрэбная ваша дапамога. Некаторыя вучні могуць наўпрост сказаць вам на ўроку, што, напрыклад, яны сталі ахвярамі здзекаў, а іншыя могуць падысці да вас пасля ўрока. Дзеці, якія зазнаюць гвалт, у тым ліку сэксуальны, не заўсёды могуць вербалізаваць, што яны адчуваюць, але вы можаце пабачыць іх рэакцыю на пэўныя практыкаванні: яны могуць выйсці з класа, сядзець моўчкі, злавацца або сумаваць. Акрамя таго, вы можаце пабачыць сляды гвалту або змены ў жэстах і паводзінах вучняў.

Ваша рэакцыя як настаўніка вельмі важная ў гэтых выпадках. Не трэба быць псіхолагам, каб дапамагчы дзіцяці. Эфект можа мець проста прызнанне таго, што ў дзіцяці ёсць праблемы, а таксама ўменне слухаць вучня. Вы можаце зрабіць шмат рэчаў самастойна, каб дапамагчы вучню ў бядзе. Але часам неабходныя больш актыўныя дзеянні, і вы можаце звярнуцца да класнага кіраўніка вучня, сацыяльнага педагога, школьнага псіхолага, дырэктара школы або мясцовых уладаў (больш падрабязна чытайце ніжэй)[8].

## ГУТАРКА І ДАПАМОГА Ў КЛАСЕ

Калі вучань здаецца сумным або кажа, што яго/яе дражняць або запалохваюць, то важна пагаварыць з вучнем. Часам дастаткова проста паслухаць яго і ўспрыняць яго словы сур'ёзна. Важна таксама працаваць разам, каб высветліць, што павінна быць зроблена пасля.

### ЯК ГЭТА ЗРАБІЦЬ:

**1. Абазначаць сваю прысутнасць**
Скажыце вучню, што вы чуеце/бачыце, што яму/ёй кепска. Скажыце, што вы хацелі б пагутарыць, калі ён/яна будзе гатовы.

**2. Знайдзіце ціхае месца — не спяшайцеся**
Некаторым вучням трэба шмат часу, каб быць гатовымі дзяліцца сваімі цяжкімі думкамі.

**3. Слухайце актыўна**
Слухайце і дапамагайце тлумачыць. Паўтарайце ключавыя словы і падсумоўвайце: «Ці я правільна разумею, калі кажу...» Прызнавайце пачуцці: «Я разумею, што табе становіцца сумна, калі... Ты таксама раззлаваны або расчараваны?»

**4. Дамоўцеся пра працяг дапамогі**
Гэтыя дамоўленасці мусяць быць заснаваныя на патрэбах вучня, а не на вашай патрэбе ў пошуку рашэнняў. Вучань павінен адчуваць ваш удзел і сваю бяспеку. Магчыма, вам трэба паспрабаваць іншыя віды працы ў класе або пагаварыць з іншымі вучнямі пра тое, як дзейнічаць у складаных сітуацыях.

**5. Парайце дзіцяці скарыстацца «гарачай лініяй»**
Вы можаце таксама параіць дзіцяці патэлефанаваць на бясплатную дзіцячую лінію дапамогі па тэлефоне 8-801-100-1611, дзе яно зможа атрымаць канфідэнцыйную экстранную псіхалагічную дапамогу. Гэтая лінія — вынік партнёрства паміж дзяржавай, няўрадавымі арганізацыямі і прыватным сектарам.

## ДАПАМОГА АД ШКОЛЫ І ЎЛАДАЎ

Ваша рэакцыя заўжды вельмі важная, калі вы ведаеце, што вучань знаходзіцца ў вельмі складанай сітуацыі. Тым не менш вы можаце сутыкнуцца з сітуацыямі, калі вы не ў стане справіцца самастойна. У гэтым выпадку варта звярнуцца па дапамогу да прадстаўнікоў школы і/або мясцовых органаў улады.

### ЯК ГЭТА ЗРАБІЦЬ:

**1. Назірайце і занатоўвайце**
Запішыце, што вас непакоіць і чаму — адносна як дзіцяці, так і бацькоў.

**2. Дзяліцеся з іншымі**
Пагаварыце пра вашу заклапочанасць з завучам, калегамі або сацыяльным педагогам.

**3. Паведаміце школе і мясцовым уладам**
Калі існуюць сур'ёзныя падставы, звярніцеся да сацыяльнага педагога, дырэктара школы або іншай асобы, адказнай за дабрабыт вучняў, каб тыя звязаліся з мясцовай камісіяй па справах непаўналетніх.

**4. Сачыце за развіццём сітуацыі**
Калі сітуацыя не паляпшаецца, калі ласка, пераканайцеся, каб інфармацыя яшчэ раз была даведзеная да мясцовых уладаў.





# ДАВЕДКА 1: КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА



## РАННЯЯ ГІСТОРЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Ідэя аб тым, што ўсе людзі маюць пэўныя правы, нарадзілася вельмі даўно. Яна прысутнічае ў многіх цывілізацыях, філасофії культуры і разуменні грамадства. Яна таксама з'яўляецца часткай (у крыху розных формах) асноўных сусветных рэлігій. Раней правы былі часта звязаныя з абавязкамі, а таксама разглядаліся як нешта ўласцівае групам людзей, а не асобам, напрыклад, у Старажытнай Грэцыі і Рыме. У Кіеўскай Русі, якая ўяўляла сабой федэрацыю ўсходнеславянскіх плямёнаў у IX–XIII стст., правы і абавязкі таксама прысутнічалі, але адрозніваліся ў залежнасці ад сацыяльных груп.

## АСВЕТНІЦТВА І ЎЗДЫМ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ

Эпоха Асветніцтва мела вырашальнае значэнне ў развіцці **грамадзянскіх і палітычных правоў**. Там, дзе ўлада раней была ўсёабдымнай, цяпер прызнавалася, што людзі павінны ўплываць на палітыку, якая закранае іх жыццё. Французская Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна, якая была прынятая ў 1789 годзе, з'яўляецца прыкладам гэтага падыходу і часта згадваецца як адна з сучасных крыніцаў развіцця тэорыі правоў чалавека. Асноўнымі прынцыпамі Дэкларацыі з'яўляюцца свабода і роўнасць перад законам. Абодва гэтыя пастулаты, нароўні з іншымі асноўнымі дэмакратычнымі паняццямі, такімі, як свабода выказвання меркаванняў і свабода аб'яднанняў, права на прыватную ўласнасць і права на недатыкальнасць прыватнага жыцця, замацаваныя ў канстытуцыях шэрагу еўрапейскіх дзяржаваў, у тым ліку Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Разам з свабодай асобы Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна таксама згадвае іншыя правы, падкрэсліваючы адказнасць уладаў у сферах занятасці, адукацыі, аховы здароўя і г.д. Гэтыя правы называюцца **сацыяльнымі, эканамічнымі і культурнымі правамі**. Яны заснаваныя на ідэі роўнасці і апынуліся ў цэнтры ўвагі з ростам індустрыялізацыі і ўздымам працоўнага класа. Гэтыя сацыяльныя правы былі ўключаны ў некалькі канстытуцый, распрацаваных у Еўропе на мяжы XIX і XX стагоддзяў, напрыклад у Канстытуцыі Савецкага Саюза 1918 года і ў Канстытуцыі Германіі 1919 года. Эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы таксама ўключаны ў Канстытуцыю сучаснай Беларусі.

## ПЕРШАЯ І ДРУГАЯ СУСВЕТНЫЯ ВОЙНЫ, З'ЯЎЛЕННЕ ААН

Першая і Другая сусветныя войны выразна паказалі, што правы чалавека не з'яўляюцца неад'емнымі. Дзяржавы здзяйсняюць жудасныя злачынствы супраць іншых дзяржаў і супраць свайго ўласнага насельніцтва. У выніку гэтага ў 1945 годзе прадстаўнікі 51 краіны сабраліся разам, каб стварыць ***Арганізацыю Аб'яднаных Нацый***. Беларусь з'яўляецца адной з краінаў-заснавальніцаў. Такім чынам, Беларусь прыняла актыўны ўдзел у стварэнні міжнароднай сістэмы правоў чалавека, якая існуе і сёння.

Задачай ААН з'яўляецца забеспячэнне трывалага міру паміж рознымі дзяржавамі. ААН таксама выступае за абарону асноўных правоў асобы, а таксама абарону людзей ад злоўжыванняў. На сённяшні дзень існуе 193 дзяржаў – сябраў Арганізацыя Аб'яднаных Нацый. Выключэннем з'яўляюцца Тайвань, Ватыкан і Косава.

У межах гэтага руху ў 1948 годзе Генеральная Асамблея ААН прыняла ***Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека*** (УДПЧ), якая праклала шлях для далейшых рэзалюцый, дэкларацый і законаў. Яна перакладзеная на 365 моваў, а яе палажэнні трапілі або паслужылі асновай для канстытуцый многіх краін.

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека не з'яўляецца юрыдычна абавязковай. Такім чынам, ідэалы і добрыя намеры Дэкларацыі неабходна ператварыць у законы. Падчас халоднай вайны праца ў галіне правоў чалавека прасоўвалася вельмі павольна, але паступова прымалася ўсё больш і больш канвенцый. У 1965 годзе была прынятая Міжнародная канвенцыя ААН аб ліквідацыі ўсіх формаў расавай дыскрымінацыі (ратыфікаваная Беларуссю ў 1969 годзе), а пасля гэтага — Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах і Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах (ратыфікаваныя Беларуссю ў 1973 годзе). На сённяшні дзень існуе дзевяць асноўных міжнародных канвенцый па правах чалавека.

**Дыяграма 1** Сістэмы правоў чалавека





ЧЫТАННЕ







# ДАВЕДКА 2: СІСТЭМА ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

## МІЖНАРОДНЫ ЎЗРОВЕНЬ

Сістэма правоў чалавека складаецца з міжнароднага, рэгіянальнага і нацыянальнага ўзроўняў.

Міжнародная сістэма правоў чалавека ў межах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый складаецца з дзевяці асноўных дамоваў (гл. дыяграму на с. 14). Гэтыя канвенцыі дзейнічаюць для тых дзяржаў, якія іх ратыфікавалі. Некаторыя канвенцыі ратыфікаваны амаль усімі дзяржавамі, напрыклад *Канвенцыя аб правах дзіцяці*, у той час як іншыя дзейнічаюць толькі ў некалькіх краінах, напрыклад *Канвенцыя аб абароне правоў працоўных-мігрантаў*.

Часта за канвенцыямі прымаюцца *факультатыўныя пратаколы*, якія альбо прадугледжваюць працэдуры ў дачыненні да канвенцыі — напрыклад, разгляд скаргаў або правядзенне расследаванняў — альбо больш прадметна закранаюць пытанні, звязаныя з канвенцыяй — напрыклад, факультатыўныя пратаколы да *Канвенцыі аб правах дзіцяці*. Факультатыўныя пратаколы да канвенцыі адкрытыя для ратыфікацыі краінамі, якія з'яўляюцца ўдзельніцамі асноўнай канвенцыі.

Кожная з дзевяці асноўных канвенцый кантралюецца камісіяй экспертаў, якія правяраюць, ці выконваюць яе дзяржавы, якія ратыфікавалі канвенцыю. Кожная дзяржава абавязана напісаць справаздачу камісіі, у якой яна апісвае, як канвенцыя выконваецца ў нацыянальным заканадаўстве і на практыцы. Камісіі экспертаў таксама атрымліваюць справаздачы ад сістэмы ААН, арганізацый грамадзянскай супольнасці, даследчыкаў і г.д. На аснове справаздач справы дзяржаў слухаюцца на пасяджэннях, якія, у залежнасці ад камітэта, адбываюцца кожныя 2–5 гадоў.

Яшчэ адным механізмам кантролю ААН з'яўляюцца так званыя ўніверсальныя перыядычныя агляды (УПА). Гэта працэс, які забяспечвае кантроль за захаваннем правоў чалавека ўсімі дзяржавамі – сябрамі ААН з перыядычнасцю 1 раз у 4 гады.

І, нарэшце, праваабарончая сістэма ААН таксама ўключае ў сябе спецыяльных дакладчыкаў або працоўныя групы, якія кантралююць пэўныя краіны або канкрэтныя тэмы (напрыклад, адукацыю або катаванні). Акрамя таго, існуе працэдура падачы скаргаў, якая займаецца неаднаразовымі, задакументаванымі і сур'ёзнымі парушэннямі правоў чалавека.

Беларусь ратыфікавала Канвенцыю супраць катаванняў і іншых жорсткіх бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання, Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, Канвенцыю аб ліквідацыі ўсіх формаў дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын, Міжнародную канвенцыю аб ліквідацыі ўсіх формаў расавай дыскрымінацыі, Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, Канвенцыю аб правах дзіцяці і Канвенцыю аб правах людзей з інваліднасцю.

## РЭГІЯНАЛЬНЫ ЎЗРОВЕНЬ

Існуюць тры рэгіянальныя сістэмы абароны правоў чалавека, кожная з якіх мае свае ўласныя прававыя пагадненні і механізмы кантролю: адна для Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, адна для Афрыкі і адна для Еўропы. У Азіі няма рэгіянальнай сістэмы абароны правоў чалавека.

Еўрапейская канвенцыя аб абароне правоў чалавека была прынятая Радай Еўропы ў 1950 годзе. У межах Канвенцыі ў 1959 годзе быў створаны Еўрапейскі суд па правах чалавека. Любы чалавек, які адчувае, што яго ці яе правы паводле Канвенцыі былі парушаныя дзяржавай-удзельніцай, можа звярнуцца ў суд.

Канвенцыя ахоплівае, галоўным чынам, грамадзянскія і палітычныя правы, а таксама права на справядлівае судовае разбіральніцтва і свабоду выказвання меркаванняў. Эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы апісаныя ў Еўрапейскай сацыяльнай хартыі 1961 года.

Беларусь не з'яўляецца сябрам Рады Еўропы, і, такім чынам, Еўрапейская канвенцыя аб правах чалавека і Еўрапейская сацыяльная хартыя не з'яўляюцца юрыдычна абавязковымі для Беларусі. Тым не менш паміж Радай Еўропы і Беларуссю існуе супрацоўніцтва ў галіне правоў чалавека, дэмакратыі і вяршэнства права.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЎЗРОВЕНЬ

На нацыянальным узроўні найбольш важнымі праваабарончымі дакументамі часта з'яўляюцца канстытуцыі дзяржаваў. У прыватнасці, шмат новых канстытуцый, распрацаваных пасля 1989 года, уключаюць у сябе падрабязную класіфікацыю правоў чалавека. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь была прынятая ў 1994 годзе, пасля таго як Беларусь абвясціла пра сваю незалежнасць ад Савецкага Саюза. У 1996 і 2004 гадах у Канстытуцыю ўнесены папраўкі. Акрамя апісання функцый і паўнамоцтваў урада, яна змяшчае раздзел аб правах і свабодах, якія прадстаўляюцца грамадзянам, уключаючы права на годны ўзровень жыцця, ахову здароўя, бясплатную агульную, сярэднюю і прафесійную адукацыю, доступ да правасуддзя, свабоду выказвання меркаванняў і сходаў і г.д.

Правы чалавека таксама павінны абараняцца ў нацыянальным заканадаўстве (якое павінна адпавядаць міжнародным канвенцыям па правах чалавека, ратыфікаваных дзяржавай), а таксама эфектыўным, некарумпаваным судом, дэмакратычна абранымі палітычнымі прадстаўнікамі і актыўнай грамадзянскай супольнасцю. Акрамя гэтага, сістэма ААН рэкамендуе стварэнне незалежнага органа кантролю, г.зн. амбудсмена або нацыянальнага інстытута па правах чалавека.



# ДАВЕДКА 3: КАНВЕНЦЫЯ АБ ПРАВАХ ДЗІЦЯЦІ



## КАНВЕНЦЫЯ АБ ПРАВАХ ДЗІЦЯЦІ

Канвенцыю аб правах дзіцяці ратыфікавалі 194 дзяржавы-ўдзельніцы, што з'яўляецца своеасаблівым рэкордам сярод іншых міжнародных дамоваў у галіне правоў чалавека. Рэспубліка Беларусь ратыфікавала Канвенцыю ў 1990 годзе і тым самым пагадзілася абараняць правы дзяцей у адпаведнасці з Канвенцыяй.

Хоць дзеці маюць права на атрыманне ўсіх правоў, апісаных у дзевяці асноўных канвенцыях ААН, Канвенцыя аб правах дзіцяці надае асаблівую ўвагу канкрэтным патрэбам дзяцей. Канвенцыя вызначае дзіця як любую асобу ва ўзросце да васямнаццаці гадоў і зацвярджае яго як асобу, якая ў поўнай меры валодае правамі чалавека. Яна ўключае ў сябе 54 артыкулы.

Канвенцыя заснаваная на чатырох агульных прынцыпах.

- **Найлепшае забеспячэнне інтарэсаў дзіцяці:** паводле артыкула 3 Канвенцыі, «ва ўсіх дзеяннях у адносінах да дзяцей [...] першачарговая ўвага надаецца найлепшаму забеспячэнню інтарэсаў дзіцяці». Гэта азначае, што любое рашэнне ўладаў або іншых зацікаўленых бакоў мусіць улічваць магчымы або рэальны ўплыў на дзяцей. Гэты прынцып з'яўляецца жыццёва важным пры прыняцці законаў, планаў, стратэгій і праграм, але таксама, напрыклад, у рашэннях судоў або мясцовых уладаў. Ад самага пачатку бацькі вырашаюць, што лепш для дзіцяці, але калі яны не могуць прыйсці да згоды або не ў стане клапаціцца пра дзіця, то ўлады павінны ўмяшацца, каб забяспечыць дабрабыт дзіцяці.

Тры астатнія прынцыпы Канвенцыі з'яўляюцца асновай для тэмаў, якія разглядаюцца ў гэтым дапаможніку.

- **Права на абарону ад дыскрымінацыі і роўнасць:** у артыкуле 2 Канвенцыі гаворыцца, што дзяржава абавязуецца «паважаць і забяспечваць усе правы, прадугледжаныя сапраўднай Канвенцыяй, за кожным дзіцем, [...] без якой-небудзь дыскрымінацыі, незалежна ад расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных і іншых перакананняў, нацыянальнага, этнічнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага становішча, стану здароўя і нараджэння дзіцяці, яго бацькоў або законных апекуноў або якіх-небудзь іншых акалічнасцей». У асобных артыкулах згадваюцца правы дзяцей з інваліднасцю і правы меншасцяў.
- **Права на абарону і развіццё:** артыкул 6 сцвярджае, што «кожнае дзіця мае неад'емнае права на жыццё» і што «дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць у максімальна магчымай ступені выжыванне і здаровае развіццё дзіцяці». Кожнае дзіця мае права не толькі на фізічнае здароўе, але і на псіхічнае, эмацыйнае, інфармацыйнае, сацыяльнае і культурнае развіццё. Іншыя артыкулы асобна пералічваюць, ад чаго дзіця мусіць быць абароненае (у тым ліку ўсе формы гвалту, выкраданняў, дзіцячай працы, наркотыкаў, гандлю людзьмі, жорсткага пакарання) і якія ўмовы павінны быць створаныя для абароны дзяцей і падтрымкі іх развіцця (правасуддзе па справах непаўналетніх, кантроль бацькоў, імя, нацыянальнасць, ідэнтычнасць, здароўе, узровень жыцця, адукацыя, вольны час, гульні і культура).
- **Права на ўдзел і інклюзіўнасць:** у артыкуле 12 гаворыцца, што дзіця мае права выказваць сваё меркаванне, а таксама права на тое, каб гэтае меркаванне было ўлічана ў любым пытанні, якое яго закранае (з улікам узросту і сталасці дзіцяці). Акрамя гэтага, дзіця мае права на шэраг свабод, якія падтрымліваюць яго права на ўдзел, у тым ліку свабоду слова, думкі і рэлігіі, асацыяцый, сходаў і доступу да інфармацыі.

Выкананне Канвенцыі аб правах дзіцяці кантралюецца Камітэтам па правах дзіцяці, які складаецца з 18 незалежных экспертаў. Кожныя пяць гадоў краіны, якія ратыфікавалі Канвенцыю, павінны прадстаўляць Камітэту даклад пра тое, як Канвенцыя выконваецца на ўзроўні нацыянальнага заканадаўства і на практыцы. НДА таксама могуць дасылаць у Камітэт свае альтэрнатыўныя справаздачы, каб асвятліць пытанні, не закранутыя ўрадам. Пасля гэтага сітуацыя ў краінах даследуецца Камітэтам.

Канвенцыя аб правах дзіцяці мае чатыры *факультатыўныя пратаколы*, якія закранаюць асобныя пытанні: 1) гандаль дзецьмі; 2) дзіцячая прастытуцыя; 3) дзіцячая парнаграфія; 4) удзел дзяцей ва ўзброеных канфліктах.

ЮНІСЭФ з'яўляецца адной з арганізацый сістэмы ААН, якія працуюць непасрэдна з правамі дзяцей.





ГРУПАВОЕ ПРАКТЫКАВАННЕ ЧЫТАННЕ



# ДАВЕДКА 4: КАНВЕНЦЫЯ АБ ПРАВАХ ДЗІЦЯЦІ – КАРОТКАЯ ВЕРСІЯ





## АГУЛЬНЫЯ АРТЫКУЛЫ

**Арт. 1 – Азначэнне дзіцяці:** асоба, якая не дасягнула ўзросту 18 гадоў

**Арт. 41 – Перавага лепшых нацыянальных стандартаў:** Калі законы той ці іншай краіны абараняюць дзяцей лепш, чым артыкулы Канвенцыі, то гэтыя законы маюць вышэйшую сілу

**Арт. 42–54 – Захады па рэалізацыі:** Гэтыя артыкулы тлумачаць, як дарослыя і ўлады павінны працаваць разам, каб забяспечыць правы ўсім дзецям

## НАЙЛЕПШАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ІНТАРЭСАЎ ДЗІЦЯЦІ

**Арт. 3 – Найлепшае забеспячэнне інтарэсаў дзіцяці:** кожны, хто працуе з дзецьмі, мусіць заўсёды рабіць тое, што найлепей для дзіцяці

## ПРАВА НА АБАРОНУ АД ДЫСКРЫМІНАЦЫІ І РОЎНАСЦЬ

**Арт. 2 – Недыскрымінацыя:** усе правы распаўсюджваюцца на ўсіх дзяцей без выключэння. Дзяржава абавязана абараняць дзяцей ад любога віду дыскрымінацыі

**Арт. 23 – Інваліднасць:** дзеці з інваліднасцю маюць права на спецыяльную адукацыю і догляд, а таксама на ўсе правы ў гэтай Канвенцыі, дзеля таго, каб жыць паўнавартасным жыццём

**Арт. 30 – Меншасці:** дзеці, якія належаць да меншасцяў, таксама маюць права прытрымлівацца сваёй культуры, мовы і рэлігіі

## ПРАВА НА ЎДЗЕЛ І ІНКЛЮЗІЎНАСЦЬ

**Арт. 12 – Павага да поглядаў дзіцяці:** дзіця мае права выказваць свае меркаванне, а таксама права быць пачутым і права на сур'ёзнае да сябе стаўленне з боку дарослых

**Арт. 13 – Свабода выказвання меркаванняў:** дзіця мае права даведвацца пра рэчы і дзяліцца сваімі думкамі з іншымі шляхам малявання, пісьма або любым іншым спосабам, калі гэта не наносіць шкоду або не абражае іншых людзей

**Арт. 14 – Рэлігія:** дзіця мае права выбіраць рэлігію і веру

**Арт. 15 – Свабода асацыяцыі:** дзіця мае права выбіраць сабе сяброў, а таксама далучацца або ствараць групы, калі гэта не шкодзіць іншым

**Арт. 16 – Права на абарону асабістага жыцця**

**Арт. 17 – Доступ да інфармацыі:** дзіця мае права атрымліваць інфармацыю, якая з'яўляецца важнай для яго дабрабыту (праз ТВ, радыё, газеты, кнігі)

## ПРАВА НА АБАРОНУ І РАЗВІЦЦЁ

**Арт. 6 – Права на жыццё:** кожны мае права жыць

**Арт. 4 – Абарона правоў:** улады нясуць адказнасць за абарону правоў дзяцей

**Арт. 5 – Адказнасць бацькоў:** сям'я нясе адказнасць за дапамогу ў ажыццяўленні правоў дзіцяці, а таксама за забеспячэнне іх абароны

**Арт. 7 – Імя і грамадзянства:** дзіця мае права на імя і грамадзянства і, наколькі гэта магчыма, права ведаць сваіх бацькоў і права на іх клопат

**Арт. 8 – Захаванне індывідуальнасці:** улады мусяць паважаць права дзіцяці на імя, грамадзянства і сямейныя сувязі

**Арт. 9 і 10 – Жыццё разам з бацькамі:** дзіця мае права жыць з адным або з абаімі бацькамі і падтрымліваць сувязі з абаімі бацькамі, калі яны не жывуць разам, калі гэта не шкодзіць дзіцяці. Калі дзіця жыве ў іншай краіне, чым яго бацькі, яно мае права быць разам з імі ў адным месцы

**Арт. 18 – Бацькоўскія абавязкі і дапамога дзяржавы:** у дзіцяці ёсць права на выхаванне сваімі бацькамі, калі гэта магчыма. Дзяржава абавязаная прадаставіць адпаведныя магчымасці дзеля гэтага

**Арт. 20 – Дзеці-сіраты:** дзіця мае права на спецыяльны догляд і дапамогу з боку дзяржавы, калі яно не можа жыць разам з сваімі бацькамі

**Арт. 21 – Усынаўленне:** дзіця мае права на догляд і абарону ў выпадку ўсынаўлення або перадачы дзіцяці на выхаванне

**Арт. 11 – Выкраданне:** дзіця мае права на абарону ад выкрадання

**Арт. 19, 34, 36, 39 – Абарона ад гвалту і знявагі:** дзіця мае права на абарону ад усіх формаў гвалту, жорсткага абыходжання і знявагі, сэксуальнай ці іншай эксплуатацыі, а таксама на атрыманне рэабілітацыі, калі такое абыходжанне мела месца

**Арт. 22 – Дзеці-бежанцы:** калі дзіця з'яўляецца бежанцам або шукае прытулку, улады павінны гарантаваць, што яно будзе карыстацца такімі ж правамі, як і любое іншае дзіця

**Арт. 25 – Ацэнка абыходжання па апекай:** калі дзіця было змешчана пад апеку, яно мае права на рэгулярную праверку абыходжання і ўмоваў апекі

**Арт. 24 – Здароўе:** дзіця мае права на найлепшую ахову здароўя, бяспечную пітную ваду, пажыўную ежу, чыстае і бяспечнае навакольнае асяроддзе, а таксама права на інфармацыю аб здаровым ладзе жыцця

**Арт. 26 – Сацыяльнае забеспячэнне:** дзіця мае права на дапамогу ад дзяржавы, калі яно жыве ў беднасці або нястачы

**Арт. 27 – Узровень жыцця:** дзіця мае права на добрыя ўмовы жыцця. Дзяржава павінна дапамагаць сем'ям або апекунам, якія не могуць забяспечыць такія ўмовы, асабліва ў дачыненні да прадуктаў харчавання, адзення і бяспечнага месца для жыцця

**Арт. 28, 29 – Адукацыя:** дзіця мае права на атрыманне якаснай адукацыі. Наведванне школы мусіць заахвочвацца на самым высокім узроўні. Адукацыя павінна служыць развіццю асобы, талентаў і здольнасцяў дзіцяці. Яна таксама мусіць навучаць правам чалавека і яго нацыянальнай культуры

**Арт. 31 – Адпачынак і вольны час:** дзіця мае права на адпачынак і вольны час

**Арт. 32 – Дзіцячая праца:** дзіця мае права на абарону ад працы, якая шкодзіць яго здароўю і адукацыі

**Арт. 33 – Ужыванне наркотыкаў:** дзіця мае права на абарону ад шкодных наркатычных сродкаў і гандлю наркотыкамі

**Арт. 35 – Выкраданне, гандаль і кантрабанда:** улады мусяць зрабіць усе захады па абароне дзяцей ад выкрадання, гандлю і кантрабанды

**Арт. 37 – Пазбаўленне волі і пакаранне:** пакаранне не мусіць быць жорсткім або прыніжаць годнасць дзіцяці

**Арт. 38 – Вайна і ўзброеныя канфлікты:** дзіця мае права на абарону ад вайны. Дзеці да 15 гадоў не могуць служыць у войску

**Арт. 40 – Правасуддзе ў адносінах да непаўналетніх:** дзіця мае права на юрыдычную дапамогу і справядлівае абыходжанне ў сістэме правасуддзя, якая мусіць паважаць яго правы




# ПРАВЫ Ў ВЕРШАХ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1–2 тэматычныя часткі | Вучні аналізуюць верш «Дзеці» Артура Вольскага і пішуць свае ўласныя вершы | Прачытайце форму. Знайдзіце, прачытайце і раздрукуйце верш | Раздрукоўка верша для кожнага вучня. Раздрукоўкі даведкі 4. Магчыма, надрукаваныя пытанні. Падручнікі з вершамі |

**МЭТЫ**

- Атрымаць базавае разуменне таго, што такое правы дзяцей
- Зразумець, што правы дзяцей з'яўляюцца натуральнай часткай нашага жыцця, якая часта апісваецца ў казках і вершах

## ЯК[9]:

### 1. Знаёмства з Канвенцыяй аб правах дзіцяці

Раскажыце вучням пра Канвенцыю аб правах дзіцяці, у тым ліку пра тое, што яна складаецца з некалькіх правоў і правілаў, якія былі прынятыя для абароны дзяцей ва ўсім свеце дзеля таго, каб гарантаваць іх дабрабыт, развіццё і адукацыю. Напрыклад, у Канвенцыі гаворыцца, што дзеці маюць права на адукацыю, харчаванне і абарону. Азнаёмце клас з кіруючымі прынцыпамі Канвенцыі.

### 2. Аналіз верша

Падзяліце клас на групы па 3–5 чалавек. Скажыце, што вы будзеце працаваць з вершамі і з тым, як у іх апісваюцца правы дзяцей.

Прачытайце ўслых верш «Дзеці» Артура Вольскага. Потым папрасіце аднаго або некалькіх вучняў прачытаць верш сваёй групе.

Раздайце групам копіі даведкі 4, а таксама наступныя пытанні. Папрасіце абмеркаваць пытанні:

а) Што такое верш? *(сцісла, падзелены на радкі, мова эканомная, малая колькасць словаў)*

б) Якая структура верша Вольскага?

- Колькі строфаў і колькі радкоў? Яны мяняюцца?
- Ці ёсць у вершы рыфма?

в) Да якога тыпу адносіцца верш «Дзеці»:

- *эпічны:* апавядае гісторыю або развіццё падзей;
- *драматычны:* апісвае перажыванні, думкі, пачуцці ў вершах;
- *лірычны:* дзеянняў няма. Замест гэтага ў вершы выяўлены думкі, адносіны, меркаванні, настрой або эмоцыі. Такія вершы часта з'яўляюцца вельмі асабістымі;
- *проза ў вершах:* празаічны тэкст, падзелены на радкі, як верш.

г) Якую мову ўжывае паэт?

- размоўную/літаратурную/урачыстую/устарэлую? Напішыце прыклады.
- Якія словы з станоўчым, адмоўным і нейтральным адценнем выкарыстоўвае аўтар верша? Звярніце асаблівую ўвагу на прыметнікі.
- Ці выкарыстоўвае Вольскі вобразнае апісанне, напрыклад параўнанні (страшны як чорт), супрацьпастаўленні, метафары, надзяленне неадушаўлёных прадметаў чалавечымі рысамі (камень плача), паўторы і інш.

д) Тлумачэнне верша

- Пра што гэты верш?
- Што верш (аўтар) нам кажа на гэтую тэму?

е) Як верш звязаны з правамі дзяцей? Ці можаце вы вызначыць, якія артыкулы Канвенцыі закранаюцца ў вершы?

### 3. Пішам вершы

Папрасіце кожную групу напісаць верш пра правы чалавека. Кожны вучань мусіць напісаць хаця б адзін радок. Натхненнем могуць служыць вершы з падручніка. Дапамагайце групам з напісаннем вершаў. Каб прэзентаваць верш класу, ён мусіць быць у фармаце Powerpoint або напісаны на вялікім аркушы паперы. Група сама вырашае, хто будзе чытаць верш перад класам.

### 4. Падсумаванне і ацэнка

Папрасіце кожную групу прачытаць свой верш услых.
Папрасіце вучняў прагаласаваць (падняццем рукі або пры дапамозе паперак) за найлепшы верш і ўзнагародзьце пераможцу сімвалічным прызам або дыпломам.

Абмяркуйце разам:

- Што вы думаеце пра гэтае практыкаванне?
- Што вы даведаліся новага?
- Якія веды пра правы дзяцей вы атрымалі?

**ПРА АРТУРА ВОЛЬСКАГА (1924–2002)**

Артур Вольскі (сапр. Артур Зэйдэль-Вольскі) служыў на флоце на працягу 10 гадоў. Калі яму было 18, ён вырашыў стаць мараком і пісьменнікам. Многія з яго вершаў прысвечаныя цяжкай працы маракоў і іх ваенным подзвігам:

- Далёкія і блізкія прычалы (1962)
- Дабрата (1966)
- Выратавальны круг (1974)
- Строма (1982)

Яшчэ больш Вольскі вядомы сваімі творамі для маленькага чытача. Ён адзін з першых пасляваенных аўтараў, які размаўляў з дзецьмі мудра, дасціпна і ўзрушана. Сярод яго кніг для дзяцей — вершы, апавяданні і казкі:

- Маленькім сябрам (1955)
- Казкі з праўдай напалам (1996)
- Адэльчыны ручнікі (2002)
- Выйшаў зайчык пагуляць (2009)

Акрамя гэтага, Вольскі з'яўляецца аўтарам шматлікіх п'ес:

- Сцяпан — вялікі пан (1979)
- Тры Іваны — тры браты (1985)
- Граф Глінскі-Папялінскі (1986).

**ІДЭЯ**

• **Прааналізуйце іншыя вершы:** Вы таксама можаце знайсці і прааналізаваць іншыя вершы, у якіх гаворыцца аб правах дзяцей, у тым ліку верш Пімена Панчанкі «Дзеці вайны», Ірыны Багдановіч «Дзіцячы дом» або вершы з агульных падручнікаў.

• **Прааналізуйце казкі:** Многія народныя казкі закранаюць тэмы правоў чалавека. Вы таксама можаце прааналізаваць іх, каб паспрабаваць высветліць, колькі артыкулаў Канвенцыі вы можаце знайсці ў казках.

Прыклады:

Права на жыллё:
- «Зайкава хатка»

Роўныя правы, знявага, дзіцячая праца і рабства:
- «Залатая яблынька»
- «Бабіна дачка і дзедава дачка»
- «Удовін сын»
- «Сын-з-кулачок»

Права на сям'ю, права на жыццё і бяспеку, абарона ад рабства і прыгону:
- «Гарошак»
- «Сын-адзінец»
- «Медзяны воўк»
- «Аленка»
- «Аддай мне тое, што дома не пакінуў»




# ДАБРАБЫТ ДЗІЦЯЦІ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка | Вучні кажуць, што трэба дзіцяці для добрага жыцця | Фота/малюнак дзіцяці<br>Факультатыўна: копіі даведкі 4, Канвенцыя аб правах дзіцяці | Фліпчарт, ручкі, вялікія сцікеры або вялікія аркушы паперы, клейкая стужка.<br>Факультатыўна: даведка 4 |

**МЭТЫ**

- Знаёмства з правамі дзіцяці
- Вербалізацыя патрэбаў і правоў дзяцей, а таксама разуменне сувязяў паміж імі
- Інстынктыўнае адчуванне важнасці ведаў па правах дзіцяці і суперажывання ў адносінах да іншых





## ЯК[10]:

### 1. Уводзіны. Мазгавы штурм

Замацуйце на сцяне фота або малюнак дзіцяці і растлумачце, што гэта можа быць любое дзіця — хлопчык ці дзяўчынка, з любым колерам скуры, любой рэлігіі і г.д. Цяпер вучні мусяць клапаціцца пра гэтае дзіця.

Падзяліце вучняў на групы па 4–5 дзяцей і дайце кожнай групе па 4 сцікеры.

Спытайце ў вучняў, што, на іх думку, трэба дзіцяці, каб мець добрае жыццё (дабрабыт). Вы можаце дапамагчы, спытаўшы, што неабходна для таго, каб дзіця адчувала сябе ў бяспецы, было шчаслівым, здаровым і паспяховым у жыцці.

У груп ёсць 10 хв., каб разам прыдумаць 4 рэчы і напісаць па адной на кожным сцікеры.

### 2. Мы нічога не забыліся?

Прадстаўнікі кожнай групы адзін за адным прымацоўваюць свае сцікеры вакол малюнка або фота дзіцяці. Дапажыце вучням аб’яднаць аналагічныя сцікеры.

Папрасіце вучняў абмеркаваць, ці задавальняюць, на іх думку, сцікеры патрэбы дзіцяці і ці не прапусцілі яны штосьці. Спытайце ў вучняў, ці ведаюць яны ўсё, што патрэбна дзіцяці, каб:

- выжыць, быць здаровым і абароненым ад гвалту і жорсткага абыходжання;
- удзельнічаць у жыцці грамадства і развівацца;
- адчуваць сябе ў бяспецы і адчуваць павагу да сябе.



У груп ёсць 5 хв., каб абагульніць і дадаць рэчы, якія былі прапушчаныя. У гэтым ім дапаможа Канвенцыя або спіс тэм у змесце.

### 3. Гутарым пра правы

Абмяркуйце наступныя пытанні разам або ў групах:

- Назавіце адну рэч з сцікераў і спытайце, чаму яна важная (правядзіце паралелі з уласнага жыцця/вопыту/разумення дзяцей)
- Гэта тое, на што дзіця павінна мець права, ці тое, што проста добра мець? (здыміце сцікеры з тым, што проста добра мець)
- Раздайце копіі Канвенцыі аб правах дзіцяці або раскажыце пра яе. Растлумачце, што яе мэта — гарантаваць, каб дзеці і дарослыя памяталі, што ў дзяцей ёсць правы і што амаль усе краіны свету пагадзіліся іх выконваць. Параўнайце іх з сцікерамі і адзначце рэчы, якія таксама ёсць у Канвенцыі. Напрыклад, намалюйце побач зорку.
- Хто адказвае за задавальненне патрэбаў дзяцей? Напрыклад, бацькі, мясцовыя ўлады, дзяржава, міліцыя, настаўнікі, усе мы.
- Да каго вы звернецеся, калі вашы правы (або правы вашых сяброў) не будуць выконвацца?

### 4. Падсумаванне і ацэнка

Пагаварыце з вучнямі пра тое, што значыць для кожнага з іх (і класа ў цэлым) невыкананне розных правоў (напрыклад, дзеці галадаюць, зазнаюць здзек або гвалт).

Скажыце вучням, што мэта практыкавання — пазнаёміць іх з тым, што трэба дзецям, і што Канвенцыя — гэта дакумент, дзе дарослыя запісалі гарантыі таго, што патрэбы дзяцей будуць задаволеныя.

> **ЗАЎВАГА**
> Патрэбы, якія выглядаюць неістотнымі, могуць мець важнае значэнне. Напрыклад, камп’ютар можа быць крыніцай інфармацыі або адукацыі і інструментам развіцця. Зброя можа выступаць як сродак абароны. Таму яна павінна разглядацца ў дачыненні да бяспекі іншых.

# МАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ – МАЕ ПРАВЫ




| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка | Вучні параўноўваюць правы ў розных дакументах, размяркоўваюць іх па групах і даюць ім загалоўкі | Знайдзіце і раздрукуйце поўныя версіі Канвенцыі аб правах дзіцяці, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і раздзел 2 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.<br>Як варыянт, клас можа знайсці дакументы самастойна | 5–7 копій (адпаведна колькасці груп) кожнага з трох дакументаў.<br>Аркушы для фліпчарта.<br>Стужка.<br>Вялікія маркеры |

| МЭТЫ |
|---|
| • Атрымаць разуменне таго, якія віды правоў дзеці маюць<br>• Прызнаць, што правы чалавека гарантуюцца як на міжнародным, так і на нацыянальным узроўні<br>• Атрымаць практычны досвед з вызначэннем правоў у розных дакументах і знайсці іх узаемасувязь |

## ЯК[11]:

### 1. Уводзіны ў практыкаванне

Раскажыце вучням, што правы чалавека гарантаваны ў міжнародных, рэгіянальных і нацыянальных дакументах. Інфармацыю шукайце ў раздзеле «Даведка». Каротка раскажыце пра тры дакументы і гісторыю іх стварэння.

Скажыце вучням, што іх задача — даследаваць правы, якія яны маюць, і тое, як яны гарантаваны на міжнародным і нацыянальным узроўнях.

### 2. Параўнанне правоў

Падзяліце клас на групы па 3–5 чалавек і раздайце кожнай групе набор з трох дакументаў. Калі вы хочаце ўскладніць практыкаванне і навучыць клас шукаць інфармацыю, вы можаце папрасіць іх знайсці дакументы самастойна.

Папрасіце групы выразаць тэкст з апісаннем правоў і згрупаваць іх па тэмах адпаведна іх разуменню ўзаемасувязі правоў. Затым яны мусяць замацаваць іх на фліпчарт і напісаць загалоўкі груп тлустым маркерам. Скажыце, што яны мусяць падрыхтавацца да прэзентацыі сваіх вынікаў астатняй частцы класа.

### 3. Гутарым пра правы

Папрасіце кожную групу прадставіць свае вынікі. Звярніце ўвагу, што калі груп шмат, то выслухаць усіх можа быць цяжка, і замест гэтага вы можаце ўзяць некалькі груп і папрасіць астатніх дапоўніць, калі ў іх ёсць нешта сказаць.

Параўнайце вынікі груп і вылучыце колерам тыя правы, якія ўсе лёгка вызначылі, і тыя, якія не. Абмяркуйце, чаму так адбылося. Спытайце клас, ці вызначылі яны наступныя правы (выберыце тыя, якія найлепш адпавядаюць вашай праграме):

> Права на адукацыю; свабода выказвання меркаванняў;
> роўнасць усіх асоб; доступ да інфармацыі
> Свабода ад катаванняў і бесчалавечнага абыходжання;
> свабода думкі, сумлення і рэлігіі;
> Дастатковае харчаванне; належнае жыллё
> Адэкватная медычная дапамога; права на мірныя сходы;
> права на чыстае паветра і ваду

Абмяркуйце:
- Якія падабенствы і адрозненні вы выявілі? Як вы можаце гэта патлумачыць?
- Ці ўключае Канстытуцыя больш або менш правоў, чым два астатнія дакументы?
- Ці ўсе дакументы разам з правамі ўтрымліваюць абавязкі?
- Якімі павінны быць абмежаванні і абавязкі дзяржавы ў гарантаванні сваім грамадзянам пэўных правоў? Напрыклад, ці з'яўляюцца голад або наяўнасць бяздомных адказнасцю дзяржавы?

### 4. Падсумаванне і ацэнка

Напрыканцы скажыце, што правы чалавека гарантуюцца на міжнародным, рэгіянальным і нацыянальным узроўнях.

Папрасіце вучняў абмеркаваць у парах, што яны даведаліся, а потым падзяліцца сваімі меркаваннямі з усім класам.




# НАМАЛЮЙ ПРАВА

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка | Кожны вучань малюе права дзіцяці, а потым усе малюнкі разам замацоўваюцца на сцяне | Прачытайце даведку 3. Факультатыўна: Знайдзіце і прачытайце поўную версію Канвенцыі аб правах дзіцяці | Копіі даведкі 4 для кожнага вучня. Факультатыўна: поўны тэкст Канвенцыі для кожнага вучня |

**МЭТЫ**

- Агучыць правы ў Канвенцыі і суаднесці іх з ілюстрацыямі
- Паразважаць пра тое, якія правы выконваюцца, а якія не
- Атрымаць веды аб тым, да каго яны могуць звярнуцца, калі іх правы або правы іх сяброў парушаюцца

## ЯК[12]:

### 1. Знаёмства з Канвенцыяй аб правах дзіцяці

Раскажыце вучням пра Канвенцыю. Інфармацыю шукайце ў раздзеле «Даведка» і ў поўным тэксце Канвенцыі, якую вы можаце знайсці ў Інтэрнэце.

Прачытайце ўслых артыкулы з Канвенцыі так, як яны пададзены ў даведцы 4, і папрасіце вучняў выбраць па адным артыкуле. Вы таксама можаце напісаць артыкулы на паперы для нататак і папрасіць вучняў выбраць адзін варыянт.

### 2. Малюем права

Папрасіце вучняў намаляваць ілюстрацыю да права, якое яны выбралі. Яны таксама мусяць напісаць загаловак, які б апісваў намаляваны артыкул. Раздайце копіі даведкі 4 і, магчыма, поўны тэкст Канвенцыі, каб вучні маглі атрымаць больш поўную карціну іх правоў. Вы таксама можаце папрасіць іх знайсці тэкст Канвенцыі ў бібліятэцы або ў Інтэрнэце.

Затым вучні па чарзе прадстаўляюць свае малюнкі і адпаведны артыкул класу. Напрыканцы малюнкі замацоўваюцца ў верхняй частцы сцяны па перыметры класа.

### 3. Гутарым пра правы

Абмяркуйце з класам наступныя пытанні ў групах або разам:

- Што Канвенцыя аб правах дзіцяці кажа нам пра тое, як мы павінны ставіцца адзін да аднаго ў класе і ў школе?
- Што Канвенцыя кажа пра тое, як дзеці павінны рабіць гэта дома і ў вольны час?
- Якія правы дзеці маюць у Беларусі? Якіх правоў, на вашу думку, дзеці не маюць у Беларусі або ў іншых краінах? Запішыце правы на дошцы.

### 4. Складзіце спіс кантактаў

Абмяркуйце з класам, што яны могуць зрабіць і да каго яны могуць звярнуцца, калі іх правы або правы іх сяброў не выконваюцца, напрыклад, дома, у школе або ў іншым месцы.

Папрасіце вучняў скласці спіс дарослых, да якіх яны могуць звярнуцца, калі іх правы парушаюцца, напрыклад сям'я, суседзі, класны кіраўнік, мясцовыя ўлады, міліцыя і інш.

### 5. Падсумаванне і ацэнка

Папрасіце вучняў падумаць над наступнымі пытаннямі і падзяліцца сваімі думкамі з астатнім класам:

- Што мне спадабалася ў гэтым практыкаванні?
- Якая частка практыкавання была найлепшай?
- Ці даведаўся я пра штосьці новае?









# ПРАВЫ НА СЦЭНЕ





| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка | Вучні рыхтуюць і паказваюць маленькую сцэнку і абмяркоўваюць, што можна зрабіць, каб змяніць сітуацыю | Зрабіце копіі і разрэжце на часткі старонку з сцэнарыямі. Знайдзіце месца, якое можа быць выкарыстана як сцэна | Копіі розных сцэнарыяў. Факультатыўна: простыя касцюмы і рэквізіт |

**МЭТЫ**

• Навучыцца вызначаць, калі правы могуць парушацца ў розных сітуацыях
• Зразумець, што правы ідуць поруч з абавязкамі
• Навучыцца знаходзіць рашэнні для сітуацый, калі правы парушаюцца

## ЯК[13]:

### 1. Раскажыце пра заданне

Растлумачце вучням, што правы — гэта не проста прыгожыя словы на паперы, але і тое, што часта можна пабачыць у жыцці, у тым ліку ў звычайных паўсядзённых сітуацыях. Часам можа быць цяжка зразумець, як дзейнічаць, калі правы парушаюцца. Такім чынам, вучні мусяць паспрабаваць зрабіць гэта цяпер.

Падзяліце вучняў на невялікія групы па 2–3 чалавекі. Дайце кожнай групе адзін сцэнарый з наступнай старонкі і папрасіце іх развіць сітуацыю і прыдумаць сцэнку на яе аснове, якую яны мусяць адрэпеціраваць і паказаць перад астатнім класам.

Дайце ім 10–15 хвілін для рэпетыцыі.

### 2. Паказваем сцэнкі і абмяркоўваем сцэнарыі

Папрасіце клас сесці перад невялікі сцэнай. Кожная група мусіць па чарзе паказаць сваю сцэнку.

Пасля кожнай сцэнкі абмяркуйце наступныя пытанні:

- Пра якія правы ідзе гаворка? Ці на самай справе ніякія правы не парушаны, а ў пастаноўцы проста паказана непрыемная сітуацыя?
- Што адчуваюць удзельнікі ў ролі чалавека, чые правы парушаны?
- Што можна зрабіць, каб змяніць сітуацыю?
- Што адбываецца, калі ўзнікае канфлікт паміж правамі і абавязкамі?
- Ці можа сцэнка мець лепшую канцоўку? Калі магчыма, папрасіце некалькі «акцёраў» разыграць іншую канцоўку, якая больш спадабалася класу.

### 3. Падсумаванне і ацэнка

Папрасіце вучняў падумаць над наступнымі пытаннямі:

- Што мне спадабалася ў гэтым практыкаванні?
- Якая частка практыкавання была найлепшай?
- Ці даведаўся я пра штосьці новае?

**ІДЭЯ:**

- Вы можаце прыдумаць уласныя сцэнарыі ў адпаведнасці з тэмай, з якой вы працуеце ў класе або сутыкаецеся ў паўсядзённым жыцці, а таксама з праблемамі класа, грамадства і г.д.
- Вы можаце прызначыць некаторым вучням асаблівую ролю ў сцэнарыях: напрыклад, Капітан Факт (тлумачыць веды, атрыманыя ў час паказу сцэнкі), Капітан Пачуцце (што я адчуваю), Капітан Справядлівасць (ці было ўсё справядлівым і разумным), Капітан Падтрымка (сэцнка была добрай, таму што...), Капітан Крытыка (сцэнка была кепскай, таму што...).



# СТАРОНКА ДЛЯ КАПІРАВАННЯ



**СЦЭНАРЫІ ДЛЯ ЎРОКА «ПРАВЫ НА СЦЭНЕ» — зрабіце копіі і разрэжце на часткі**

| | |
|---|---|
| Звычайная субота. Ты ідзеш па вуліцы. Раптам ты бачыш, як дзве дзяўчынкі твайго ўзросту дражняць трэцюю дзяўчынку, таму што яна носіць іншае адзенне і кепска размаўляе на мясцовым дыялекце. | Твае бацькі толькі што вырашылі жыць асобна, і ты чуеш, як яны абмяркоўваюць, з кім ты будзеш жыць. Але як наконт твайго ўласнага меркавання? |
| У тваёй школе ўсяго дзевяць класаў, таму пасля летніх вакацый многія вучні пераходзяць у іншую школу. Але ты карыстаешся інвалідным вазком, а ў новай школе занадта высокая лесвіца. Таму ты не можаш вучыцца ў той самай школе, што і твае сябры. | Ты хочаш паглядзець фільм, але бацька кажа, што ён не падыходзіць для твайго ўзросту. |
| Твае бацькі кажуць, што не хочуць, каб ты гуляў па горадзе ўвечары, бо ты можаш трапіць у бяду. Ты лічыш гэта несправядлівым, паколькі ты не робіш нічога дрэннага, акрамя таго знаходзішся ў грамадскім месцы. | Ты хочаш пайсці спаць пазней, але маці не дазваляе, таму што на наступны дзень табе трэба ісці ў школу. |
| Тваім бацькам вельмі не падабаецца, калі ты пярэчыш бабулі і дзядулю. Але часам ты лічыш, што бабуля і дзядуля маюць няправільнае стаўленне да рэчаў. | Ты хочаш хадзіць у музычную школу і граць на скрыпцы, але бацька не думае, што табе гэта спатрэбіцца ў будучыні. |
| Твая маці не дазваляе табе хадзіць купацца з сябрамі на возера. Ты кажаш ёй, што гэта несправядліва, але яна кажа, што на вадзе небяспечна. | Ты прыходзіш дадому і бачыш, як твая сястра чытае твой дзённік. |
| Ты бачыш, што твайго аднакласніка вінавацяць у тым, чаго ён рабіў. Але ты не хочаш звязвацца з гэтай праблемай. | Ты хочаш пайсці на вуліцу і гуляць з сябрамі, але маці кажа, што ты мусіш дапамагчы ёй з хатнімі справамі. Ты лічыш, што гэта несправядліва. |

АБМЕРКАВАННЕ

ТВОРЧАСЦЬ

РУХ


# РАЗАРВІ КОЛА

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка | Адзін з вучняў спрабуе трапіць у кола, а астатнія не пускаюць яго/яе ў сярэдзіну | Не патрабуецца | Папера і ручкі для назіральнікаў. Гадзіннік або таймер |

**МЭТЫ**

- Паразважаць аб тым, калі добра быць часткай групы
- Адчуць сябе часткай групы (чужым)
- Прааналізаваць метады, якія мы выкарыстоўваем, каб стаць часткай групы і не дазволіць гэтага іншым

## ЯК[14]:

### 1. Уводзіны
Падзяліце вучняў на групы па 6–8 чалавек. Кожная група павінна абраць «чужога» і двух «назіральнікаў». Астатняя частка групы ўтварае шчыльнае кола, стоячы плячо ў плячо, каб паміж імі не засталося месца.

### 2. Практыкаванне
«Чужыя» павінны паспрабаваць патрапіць у кола, а астатнія мусяць не дазволіць ім гэтага зрабіць.

Назіральнікі павінны сачыць за тымі метадамі, якія выкарыстоўваюць «чужыя» і вучні ў коле. Магчыма, ім давядзецца запісаць гэтую інфармацыю.

Назіральнікам могуць дапамагчы наступныя пытанні:
- Што вучні ў коле кажуць адзін аднаму і «чужому»?
- Што вучні ў коле робяць, каб не пусціць «чужога» ў сярэдзіну?
- Што кажа «чужы»?
- Што «чужы» робіць?
- Колькі часу гэта займае?

Паўтарыце практыкаванне некалькі разоў, каб максімальная колькасць вучняў паспрабавала быць «чужымі» і «назіральнікамі».

### 3. Падсумаванне і ацэнка
Пагаварыце з вучнямі пра тое, што адбывалася падчас практыкавання і што яны адчувалі ў гэты час.

Пачніце з наступных пытанняў:
- Што значыць быць часткай групы?
- Што значыць быць «чужым»?
- Ці адчуваюць сябе вучні, якім удалося трапіць у кола, па-іншаму, чым тыя, каму гэтага не ўдалося зрабіць?

Пытанні для назіральнікаў:
- Якімі метадамі карысталіся «чужыя», каб трапіць у кола?
- Якімі метадамі карысталіся вучні ў коле, каб не пусціць «чужых» у сярэдзіну?

Пытанні для ўсяго класа:
- Якія супольнасці або групы існуюць у школе? Напрыклад, вучнёўская рада або вучні, якія гуляюць у футбол на перапынках.
- Чаму звычайна добра быць часткай супольнасці або групы?
- Ці бываюць моманты, калі нармальна адрознівацца і не быць часткай супольнасці або групы?
- Ці былі моманты, калі вы адчувалі, што вы не з'яўляецеся часткай супольнасці або групы?

**ЗАЎВАГА**
Калі ў класе дрэнныя адносіны паміж вучнямі, вы мусіце ўлічыць, што гэтае практыкаванне можа быць занадта цяжкім фізічна або эмацыйна.



АБМЕРКАВАННЕ

ТВОРЧАСЦЬ


# АЎТАПАРТРЭТ – ГРУПАВЫ ПАРТРЭТ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1–2 тэматычныя часткі | Вучні робяць аўтапартрэт, які адначасова з'яўляецца часткай групавога партрэта | Прачытайце даведкі 3 і 4. Факультатыўна: надрукуйце фота вучняў або папрасіце іх прынесці свае фота | Рознакаляровы кардон, нажніцы, клей, маркеры, кнопкі і інш. Факультатыўна: фота вучняў |

**МЭТЫ**

- Зразумець, што ўсе мы розныя і ўсе роўныя
- Зразумець, што ўсе мы маем права быць тым, кім мы з'яўляемся
- Зразумець, што ўсе мы важныя і што мы яшчэ больш важныя, калі мы разам



## ЯК[15]:

### 1. Гутарым пра ідэнтычнасць

Пагаварыце з вучнямі пра падабенствы і адрозненні. Абапірайцеся на наступныя пункты:

- Што дапамагае нам характарызаваць чалавека?
- З чаго складаецца ідэнтычнасць? Напрыклад, што ў чалавека ад нараджэння, што з'яўляецца ў працэсе выхавання і што ён сам выбірае?
- Абмяркуйце пытанні імя, грамадзянства, рэлігіі, колеру скуры і магчымай інваліднасці.
- Пагаварыце пра тое, што кожны мае права на імя і грамадзянства.

Папрасіце вучняў зрабіць партрэт класа, паказваючы адрозненні і падабенствы. Партрэт мусіць быць у выглядзе букета, а вучні — розных кветак.

### 2. Робім аўтапартрэты

Папрасіце кожнага вучня зрабіць аўтапартрэт у выглядзе кветкі, якая потым стане часткай агульнага букета ў вазе класа.

Вучні павінны зрабіць кветку з кардону і намаляваць аўтапартрэт або выразаць сваё фота і прыклеіць яго ў цэнтры кветкі. На лістах вучні павінны напісаць станоўчыя якасці, якія іх характарызуюць. Скажыце вучням, каб яны дапамагалі адзін аднаму, калі некаму цяжка прыдумаць свае станоўчыя характарыстыкі. Напрыклад, пачуццё гумару, добрыя веды ў матэматыцы, крэатыўнасць і г.д.

### 3. Робім групавы партрэт

Наклейце кветкі ўсіх вучняў на вялікі аркуш паперы. Потым выражце вазу, якая збярэ ўсе кветкі. Пераканайцеся, што ўсе кветкі аднолькава бачныя. Прымацуйце вазу на сцяне.

Папрасіце вучняў прадставіць свае кветкі па чарзе. Спытайце ў іх:

- Чаму вы выбралі менавіта гэтую кветку?
- Што яна сімвалізуе?
- Чаму вы выбралі менавіта гэтыя словы, каб апісаць сябе?

Пагаварыце пра карціну, якая ўтвараецца, калі скласці ўсе кветкі разам:

- Што яна сімвалізуе?
- Што, як вы думаеце, бачаць іншыя, калі глядзяць на яе? Што яны даведаюцца пра клас?
- Як можна ахарактарызаваць гэты клас? Напрыклад, гэты клас адкрыты, круты, розны і прыязны да ўсіх.

**ІДЭЯ**

- Вы таксама можаце папрасіць вучняў зрабіць партрэт у выглядзе васілька. Кветкі будуць розныя і разам складуцца ў прыгожы букет.
- Замест вазы вы можаце выкарыстоўваць паветраны шар, у якім кожны вучань будзе адным шарыкам са сваёй формай і колерам, а ўсе шары разам дапамогуць падняць кошык па-над зямлёй.

Коратка раскажыце пра тое, як, на вашу думку, кветкі сімвалізуюць клас, напрыклад:

- Кожная кветка ўнікальная, мае свой колер, водар, памер, некаторыя растуць на зямлі, іншыя на кустах, некаторыя квітнеюць у сухім клімаце, іншыя ў вільготным і гэтак далей.

Але ўсе яны маюць прыгажосць і здольнасці.

Кветкі ў вазе, якая сімвалізуе клас, ствараюць нешта новае — букет, супольнасць. Без разнастайнасці колераў гэта будзе проста пустая ваза, але з кветкамі яна становіцца нечым большым. Кожны чалавек унікальны і мае сваю ўласную значнасць, і калі вы збіраецеся ў класе, то ствараеце нешта новае, што таксама мае вялікае значэнне само па сабе, не змяняючы кожнага асобнага вучня.

### 4. Падсумаванне і ацэнка

Растлумачце вучням прынцып права на абарону ад дыскрымінацыі і роўнасць у Канвенцыі аб правах дзіцяці (даведкі 3 і 4).

Папрасіце вучняў падумаць над наступнымі пытаннямі:

- Што мне спадабалася ў гэтым практыкаванні?
- Якая частка практыкавання была найлепшай?
- Ці даведаўся я пра штосьці новае (пра сябе, пра аднакласнікаў, пра супольнасць усяго класа)?

АБМЕРКАВАННЕ



РУХ



# ПЕРШЫЯ ЎРАЖАННІ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка | Вучні глядзяць на фота розных людзей і запісваюць свае першыя ўражанні. Пасля гэтага ўсе разам абмяркоўваюць уражанні | Знайдзіце 4–5 фота людзей рознай знешнасці, узросту, культуры, нацыянальнасці, з інваліднасцю і без і г.д. | Фота, папера для нататак, ручкі |

**МЭТЫ**

- Зразумець, што ўсе мы хутка фарміруем першыя ўражанні аб іншых на падставе іх знешнасці
- Зразумець, як нашы перакананні ўплываюць на нашы паводзіны ў адносінах да іншых





## ЯК[16]:

### 1. Глядзім і пішам

Змясціце 4–5 сталоў асобна адзін ад аднаго. На кожны стол пакладзіце па адным фота розных людзей выявай уніз. Акрамя таго, пакладзіце дастатковую колькасць паперы для нататак на кожным стале. Папрасіце вучняў узяць ручкі і моўчкі сесці вакол сталоў.

На кожным стале вучні па чарзе глядзяць на фота, запісваюць першае слова, якое прыходзіць на розум, на адной з паперак і кладуць яе надпісам уніз на стол побач з фота. Пераканайцеся, каб вучні не бачылі, што напісана на паперках. Калі ўсе вучні скончылі, яны перамяшчаюцца да наступнага стала і паўтараюць практыкаванне, пакуль усе вучні не пакінуць па адной паперцы побач з кожным фота.

Папрасіце вучняў маўчаць на працягу ўсяго практыкавання. Толькі вы можаце размаўляць і казаць, калі час сядаць за наступны стол. У час выканання практыкавання вы можаце ўключыць расслабляльную музыку.

### 2. Абмяркоўваем першыя ўражанні вучняў

Збярыце ўсіх вучняў вакол сталоў і скажыце ім перагарнуць паперкі па чарзе. Вы можаце папрасіць вучняў згрупаваць іх.

Абмяркуйце першыя ўражанні вучняў пра людзей на фота:
- Наколькі адрозніваліся / былі падобныя ўражанні вучняў? Ці былі якія-небудзь сюрпрызы?
- Чаму яны напісалі менавіта гэтыя словы?
- Якія стэрэатыпы і забабоны былі выяўлены? (гл. блок з тэрмінамі)

Папрасіце вучняў вярнуцца на свае месцы. Скажыце, хто насамрэч людзі на фота.
Абмяркуйце наступныя пытанні:
- Знайдзіце прыклады таго, як выбраныя словы не падыходзілі чалавеку. Ці было такое з вамі раней? Якімі могуць быць наступствы, калі вы думаеце пра чалавека штосьці, што не з'яўляецца праўдай?
- Што практыкаванне паказала вучням пра іх саміх?
- Ці сутыкаюцца яны з забабонамі? Якімі і чаму? Як яны сябе адчуваюць з-за гэтага?

**ТЭРМІНЫ**
- **Стэрэатыпы** — гэта перакананні, заснаваныя на абагульненнях аб цэлай групе або катэгорыі людзей, без уліку індывідуальных асаблівасцяў
- **Забабоны** — адмоўныя пераасэнсаваныя адносіны, якія не заснаваныя на ведах або на рацыянальным мысленні, то бок не заснаваныя на фактах. Забабоны выцякаюць з абагульненага ўспрымання пэўных груп у грамадстве. Забабоны могуць прывесці да незаконнай дыскрымінацыі і часта, але не заўсёды, нясуць адмоўную афарбоўку

### 3. Падсумаванне і ацэнка
- Што вы думаеце пра гэта практыкаванне?
- Што новага вы даведаліся?
- Як вы можаце выкарыстаць веды, атрыманыя падчас выканання гэтага практыкавання?

**ІДЭЯ**

Вы таксама можаце паказаць і абмеркаваць гэтыя кароткія відэа на тэму дыскрымінацыі або знайсці іншыя відэа ў Інтэрнэце:

*Прыбярыце забабоны:*
http://www.youtube.com/watch?v=ZTbSFO-WiDo (Апошні сказ на дацкай мове: *«Забабоны не вартыя стаяння ў чарзе»*)
*Дыскрымінацыя – гэта боль:*
https://www.youtube.com/watch?v=NppdTn3-6Vg (Апошні сказ на дацкай мове: *«Дыскрымінацыя – гэта боль»*)
Мімікрыя: https://www.youtube.com/watch?v=shtoXi__D5w (Апошні сказ на дацкай мове: *«Часам вы на ўсё згодныя дзеля прызнання»*).

АБМЕРКАВАННЕ

ТВОРЧАСЦЬ

РУХ


# ДЗЕЦІ З ІНВАЛІДНАСЦЮ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка – 1 дзень | Вучні ўяўляюць, што ў іх ёсць інваліднасць у час вучобы | Магчыма, спатрэбіцца планаванне разам з іншымі настаўнікамі, якія працуюць з гэтым класам. Прачытайце даведку 4 | Шалікі для завязвання вачэй, берушы, мыліцы і г.д. |

**МЭТЫ**

- Адчуць, што значыць мець інваліднасць
- Абмеркаваць правы і цяжкасці, з якімі дзеці з інваліднасцю сутыкаюцца ў школе і грамадстве
- Праца ў камандзе і ўзаемадапамога

## ЯК[17]:

### 1. Раскажыце пра практыкаванне

Пачніце практыкаванне на першым уроку. Спытайце ў вучняў, якія віды фізічных недахопаў яны ведаюць, напрыклад слепата, глухата або неабходнасць карыстацца інвалідным вазком. Скажыце вучням, што ім давядзецца адчуць, што значыць мець фізічную інваліднасць.

Працягвайце практыкаванне на іншых уроках, пажадана ў той самы дзень, каб у вучняў была магчымасць не выходзіць з ролі па-за класам, напрыклад на абедзе і перапынках.

### 2. Адчуй інваліднасць на сабе

Выберыце 3–4 вучняў, каб яны паспрабавалі, што значыць мець інваліднасць, з дапамогай рэквізітаў і ў сітуацыях, апісаных ніжэй:

- *Слепата:* Завяжыце вочы аднаму вучню. Папрасіце іншага вучня быць яго павадыром. Задача «сляпога» — прайсці па школе.
- *Глухата:* Выкарыстайце берушы. Вучань павінен адчуць, што ён не ўдзельнічае ў размове аднакласнікаў і не ў стане пачуць настаўніка. Астатнія вучні мусяць выкарыстоўваць жэсты або запісваць, што яны хочуць сказаць.
- *Адсутнасць рукі/нагі або перасоўванне ў вазку:* Прывяжыце руку вучня да спіны або папрасіце яго скакаць на адной назе, хадзіць з мыліцамі або сядзець у інвалідным вазку. Вучань павінен паспрабаваць увайсці і выйсці са школы, дабрацца да дзіцячай пляцоўкі і ў туалет.
- Скажыце вучням, што яны павінны зжыцца з роляй і што важна, каб усе дапамагалі адзін аднаму на ўроках і перапынках. Майце на ўвазе, што вучні могуць адчуць бездапаможнасць. Важна, каб вы маглі дапамагчы вырашыць канфлікты і казаць пра тое, што вучні адчуваюць у ходзе практыкавання.

Завяршыце практыкаванне і абмяркуйце з вучнямі:

- Як яны адчувалі сябе ў ролі чалавека з інваліднасцю?
- Як вучні без інваліднасці ўспрымалі дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі на працягу дня?
- Пагаварыце пра тое, што патрабуецца для таго, каб дзеці з абмежаванымі магчымасцямі маглі займацца спортам, глядзець тэлевізар, гуляць у розныя гульні, рухацца. Што і каму найбольш цяжка рабіць?

### 3. Гутарым пра псіхічныя парушэнні

- У чым розніца паміж фізічнымі і разумовымі недахопамі?
- Ці ведаеце вы каго-небудзь, хто мае разумовую адсталасць?
- Як вы лічыце: прасцей мець разумовы або фізічны недахоп?

### 4. Падсумаванне

Прачытайце тэкст:

> Арцём карыстаецца інвалідным вазком, таму што ён не можа хадзіць. Арцём любіць школу, але яму цяжка трапіць туды, таму што каля ўваходу няма пандуса. Кожны раз, калі ён уваходзіць або выходзіць са школы, яму патрэбна дапамога дарослага.

Спытайце ў класа:

- Ці павінна школа перарабіць уваход, каб Арцём мог свабодна ўвайсці? Што, на іх думку, пра гэта сказала б Канвенцыя аб правах дзіцяці? Скажыце пра арт. 23. Вы таксама можаце знайсці і прачытаць увесь тэкст і расказаць пра яго.
- Як, на вашу думку, адчуваў бы сябе чалавек з фізічным або разумовым недахопам у вашай школе або ў вашым доме?
- Што можа зрабіць школа (мясцовыя ўлады), каб палепшыць жыццё дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі?

**ЗАЎВАГА**
18 кастрычніка 2016 года Прэзідэнт Лукашэнка падпісаў Закон Рэспублікі Беларусь аб ратыфікацыі Канвенцыі аб правах інвалідаў

**ІДЭЯ**
Вучні старэйшых класаў могуць прачытаць пра Паралімпійскія гульні

АБМЕРКАВАННЕ

ТВОРЧАСЦЬ


# ДОБРАЯ ШКОЛА

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1–2 тэматычныя часткі | Вучні абмяркоўваюць, чаму школа важная, і малююць ілюстрацыю добрай школы | Прачытайце скарочаную версію Канвенцыі аб правах дзіцяці (арт. 28 і 29). Факультатыўна: знайдзіце поўны тэкст Канвенцыі | Папера для фліпчарта і ручкі. Копіі арт. 28 і 29 у кароткай або поўнай версіі ў выглядзе прэзентацыі PowerPoint або ў друкаваным выглядзе для кожнай групы |

**МЭТЫ**

- Разуменне права на адукацыю
- Развагі пра тое, што патрабуецца, каб мець добрую школу

## ЯК[18]:

### 1. Чаму мы ходзім у школу?
Прачытайце тэкст услых або папрасіце двух або больш вучняў разыграць гісторыю як сцэнку.

**Вольга і школа**
Вольга не хоча хадзіць у школу. Яна любіць дапамагаць у краме сваёй маці пасля школы і такім чынам зарабляе трохі грошай. Вольга пытаецца ў маці, ці можа яна проста працаваць замест таго, каб хадзіць у школу. Маці Вольгі кажа ёй, што ў яе няма выбару, што яна павінна атрымаць базавую адукацыю і што Вользе на самай справе пашанцавала, таму што ў яе ёсць магчымасць наведваць школу бясплатна.

Падзяліце клас на групы па 3–5 чалавек і папрасіце іх абмеркаваць: ці лічаць яны, што Вольга мусіць хадзіць у школу? Ці мусіць яна працаваць у краме? Вучні павінны абгрунтаваць сваё меркаванне. Пасля гэтага групы дзеляцца сваімі высновамі з класам.

Скажыце класу, што ў адпаведнасці з Канвенцыяй аб правах дзіцяці усе дзеці маюць права атрымліваць базавую адукацыю бясплатна. Гэта азначае, што ўсе дзеці ў свеце маюць права хадзіць у школу або навучацца бацькамі.

Папрасіце клас прачытаць артыкулы 28 і 29 Канвенцыі (поўны тэкст або скарочаную версію, уключаную ў дапаможнік, у залежнасці ад наяўнага часу).

Разам складзіце спіс усіх прычын, чаму дзеці маюць патрэбу ў базавай адукацыі. Напрыклад, каб даведвацца пра свет, каб навучыцца чытаць і пісаць, каб атрымаць вышэйшую адукацыю або працу і г.д.

### 2. Хто не ходзіць у школу?
Папрасіце групы абмеркаваць наступныя пытанні:
- Ці ёсць у Беларусі дзеці, якія не ходзяць у школу? Чаму?
- Ці ёсць дзеці, якія ходзяць у школу, але нічаму не вучацца? Чаму?
- Якія найбольш эфектыўныя спосабы вучобы?

Напрыканцы спытайце, якія адказы групы далі на кожнае пытанне. Дапамажыце вучням сфармуляваць адказы, напрыклад: у некаторых школах не хапае настаўнікаў або некаторыя дзеці маюць цяжкасці з навучаннем і канцэнтрацыяй, таму што яны галодныя, стомленыя, маюць праблемы дома, іх дражняць і г.д.

### 3. Малюем добрую школу
Папрасіце групы намаляваць добрую школу на паперы для фліпчарта. Яны павінны намаляваць рэчы, неабходныя для добрай школы, а таксама тое, што вучні, настаўнікі і бацькі робяць у добрай школе. Яны таксама могуць напісаць некалькі словаў або свае прапановы. Кожны мусіць штосьці намаляваць, нават калі малюнак не будзе выглядаць ідэальна. Вось некаторыя прыклады:
- Нікога не дражняць і ўсім хапае месца.
- На школьным двары цікава і бяспечна.
- Настаўнік разумны, бацькі бяруць удзел у жыцці школы.
- Клас добры, прыбіральні чыстыя.
- Кнігі і іншыя матэрыялы цалкам бясплатныя.

Павесьце малюнкі на сцяне і папрасіце вучняў знайсці падабенствы і адрозненні.

Пагаварыце з вучнямі пра тое, што яны і школа могуць зрабіць, каб стварыць добрую школу.

### 4. Падсумаванне
Папрасіце клас абмеркаваць у парах, што яны даведаліся аб праве на адукацыю і добрую школу.

**ІДЭЯ**
- Знайдзіце старыя часопісы або фота і выкарыстайце іх у якасці дадатку або замест малюнкаў.
- Вы можаце сумясціць гэтае практыкаванне з практыкаваннем «Сумесная адказнасць за навучанне».

ЧЫТАННЕ АБМЕРКАВАННЕ ТВОРЧАСЦЬ





# ДЗІЦЯЧАЯ ПРАЦА

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка | Вучні паказваюць, як яны праводзяць свой дзень, і параўноўваюць свой дзень з днём свайго суседа і дзяцей, якія працуюць | Зрабіце копіі тэксту «Знаёмства з дзецьмі, якія працуюць». Знайдзіце і прачытайце поўны тэкст арт. 32 Канвенцыі | Копіі тэкста «Знаёмства з дзецьмі, якія працуюць». Поўны тэкст арт. 32 Канвенцыі аб правах дзіцяці |

**МЭТЫ**

- Развагі аб умовах жыцця дзяцей у іншых частках свету
- Разуменне важнасці права на адпачынак і вольны час

## ЯК[19]:

### 1. Як выглядае твой дзень?

Папрасіце вучняў падумаць пра звычайны дзень у іх жыцці. Як яны бавяць свой час?

Папрасіце вучняў напісаць ці намаляваць расклад, які паказвае, колькі часу яны выдаткоўваюць на розныя віды дзейнасці на працягу звычайнага дня: раніцай, днём і ўвечары. Старэйшыя вучні могуць намаляваць кола, падзеленае на 24 сектары.

*У вучняў ёсць 15 хв., каб намаляваць расклад.*

Папрасіце вучняў параўнаць свой расклад з раскладам суседа. Скажыце, каб яны звярнулі ўвагу на тое, колькі часу іх сусед траціць на хатнія абавязкі, хатняе заданне, гульні і іншыя рэчы.

### 2. Дзень з жыцця непаўналетняга работніка

Падзяліце вучняў на групы па 3–4 чалавекі. Раздайце копіі тэксту «Знаёмства з дзецьмі, якія працуюць» і папрасіце вучняў прачытаць яго самастойна.

Папрасіце вучняў уявіць, што робяць гэтыя дзеці ў звычайны дзень. Вучні мусяць намаляваць расклад хлопчыка ці дзяўчынкі, напрыклад, з дапамогай наступных пытанняў:

- Ці ходзяць яны ў школу?
- Колькі гадзінаў на дзень яны працуюць?
- Што яны робяць на працы?
- Ці ёсць у іх час на сям'ю і сяброў?
- Ці ёсць у іх час на гульні?

Павесьце графікі на дошку або сцяну.
Абмяркуйце тое, як розныя групы ўяўляюць расклад хлопчыка і дзяўчынкі.

- Параўнайце графікі хлопчыка і дзяўчынкі. Чый дзень больш загружаны?
- Як вы думаеце, ці ўплывае праца на іх здароўе?
- Ці ўплывае яна на іх вучобу?
- Чаму, на вашу думку, яны вымушаны працаваць?

**ІДЭЯ**

- Вучні могуць зрабіць рэферат па тыпах дзіцячай працы, выкарыстоўваючы інфармацыю з Інтэрнэту.
- Яны могуць таксама правесці апытанне сярод вучняў старэйшых класаў: спытаць у іх, колькі гадзін яны працуюць у хаце ці на працы ў вольны час.

### 3. Абмяркоўваем дзіцячую працу ў Беларусі

Прачытайце поўны тэкст арт. 32 Канвенцыі аб правах дзіцяці, які апісвае ўмовы дзіцячай працы, і яго кароткі пераказ:

> Вы маеце права на абарону ад працы, якая шкодзіць вам, вашаму здароўю і адукацыі. Калі вы працуеце, вы маеце права на бяспеку і справядлівую аплату.

Папрасіце групы абмеркаваць дзіцячую працу ў Беларусі:

- Як вы думаеце: ці ёсць у Беларусі дзеці, якія выконваюць працу, падобную на тую, што робяць дзяўчынка і хлопчык у прыкладах? Калі дазваляе час, вы можаце папрасіць вучняў знайсці інфармацыю самастойна.
- У некаторых школах у Беларусі дзеці збіраюць бульбу і іншую гародніну ў калгасах. Як вы думаеце: гэта дзіцячая праца або выхаваўчы момант, які дапамагае дзецям зразумець, адкуль бярэцца ежа?
- Чым праца ў пазашкольны час або праца па хаце адрозніваецца ад дзіцячай працы?

### 4. Падсумаванне і ацэнка

Спытайце, якія варыянты адказаў яны абмяркоўвалі.

Папрасіце вучняў падумаць над наступнымі пытаннямі:

- Што мне спадабалася ў гэтым практыкаванні?
- Якая частка практыкавання была найлепшай?
- Ці даведаўся я пра штосьці новае?

# СТАРОНКА ДЛЯ КАПІРАВАННЯ

ЧЫТАННЕ



## ЗНАЁМСТВА З ДЗЕЦЬМІ, ЯКІЯ ПРАЦУЮЦЬ



Фота: Кен Херман

**Ясмін, 11 гадоў. Жыве ў Бангладэш**

Ясмін пачала працаваць у дамах іншых людзей, калі ёй было пяць гадоў. Спачатку яна працавала разам з маці, але цяпер яна працуе адна.

*«Мой дзень пачынаецца ў 6 гадзін раніцы, калі я мыю падлогу ва ўсёй кватэры. Я таксама гатую сняданак. Бацька хоча есці ў 7 раніцы, а маці ўстае так, што гатова снедаць каля 8. Я праводжу шмат часу на кухні, дзе я гатую ежу, мыю посуд і прыбіраю»*

Амаль увесь дзень Ясмін праводзіць на кухні, дзе тэмпература хутка павышаецца, калі яна гатуе. Кухня мае плошчу ў 8 квадратных метраў, і ў канцы працоўнага дня Ясмін раскладвае тут кілімок, на якім яна спіць[20].



Фота: Кюрэ Лін

**Дзіма, 14 гадоў. Жыве ва Украіне**

Дзіма ходзіць у школу. Але, як і большасць яго сяброў, кожны дзень пасля школы ён павінен ісці на працу.

Дзіма працуе ў закінутай вугальнай шахце непадалёк ад дома. Праца небяспечная, а ў шахце няма нават самых простых мер бяспекі, такіх, як аварыйныя выхады, вентыляцыя, газааналізатары або падпоркі для столі. Але Дзіма павінен працаваць, каб забяспечыць сваю сям'ю.

*«Мая маці не працуе. У яе двое маленькіх дзяцей. Мой бацька кінуў нас. Мая бабуля таксама жыве з намі і атрымлівае невялікую пенсію. Гэтага, разам з грашыма, якія я зарабляю на шахце, ледзьве хапае нам, каб пражыць»*[21].

АБМЕРКАВАННЕ  ТВОРЧАСЦЬ  РУХ 

# ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1–2 тэматычныя часткі | Вучні ўдзельнічаюць у эстафеце, каб зрабіць спіс здаровых і шкодных рэчаў, складаюць меню здаровага сняданку і праходзяць тэст на веданне здаровых звычак | Прачытайце даведку 3. Замацуйце на сцяне вялікія аркушы паперы і падзяліце кожны з іх на дзве часткі (зялёную і чырвоную). Знайдзіце часопісы і рэкламу | Аркуш для кожнай групы. Ручкі і крэйда. Часопісы і рэклама. Нажніцы і клей (клейкая стужка) |

| МЭТЫ |
|---|
| • Пашырыць веды вучняў аб здаровым ладзе жыцця |

## ЯК[22]:

### 1. Эстафета здароўя (20–30 хв.)

Падзяліце клас на 3–5 груп. Папрасіце кожную групу стаць у чаргу перад плакатам. Дайце ручкі вучням, якія стаяць у чарзе першымі.

Растлумачце, што па камандзе «Старт!» вучні з кожнай групы па чарзе бягуць да плаката і пішуць якую-небудзь здаровую рэч у зялёнай і нездаровую рэч у чырвонай калонцы.
Яны павінны працягваць да таго часу, пакуль вы не скажаце «Стоп!». Растлумачце, што мэта практыкавання ў тым, каб напісаць як мага больш рэчаў за вызначаны час.

Рэчы, якія яны могуць напісаць: віды ежы і пітва, курэнне, фізічныя практыкаванні, чыстка зубоў і г.д.

Працягвайце практыкаванне 5–15 хвілінаў, каб у кожнага быў час прынамсі раз падысці да спіса.

Папрасіце вучняў сесці перад сцяной і прадставіць свае спісы па чарзе. Падлічыце колькасць рэчаў у кожнай групы і абвясціце пераможцаў. Потым абмяркуйце, якія рэчы напісалі большасць груп і ці не прапусцілі яны нешта важнае. Спытайце, якія праблемы, звязаныя са здароўем, хвалююць вучняў у паўсядзённым жыцці.

**ІДЭЯ**
Каб зрабіць эстафету цікавейшай, павялічце адлегласць да сцяны. Практыкаванне таксама можа зрабіць на вуліцы.

### 2. Здаровы сняданак (каля 30 хв.)

Кожная група павінна скласці меню здаровага сняданку, выкарыстоўваючы выразкі з выявамі ежы з часопісаў і рэкламы. Папрасіце групы знайсці здаровую ежу ў друкаваных матэрыялах і, выбраўшы пяць прыкладаў, прымацаваць іх на аркушы паперы.

Папрасіце кожную групу прадставіць свой спіс і растлумачыць, чаму выбраныя прадукты з'яўляюцца здаровымі. Спытайце ў іншых груп, ці згодныя яны з выбарам.

Абмяркуйце наступныя пытанні з усім класам:
- Якія прадукты з'яўляюцца здаровымі/нездаровымі?
- Ці быў ваш сённяшні сняданак здаровым/нездаровым?
- Чаму важна есці здаровы сняданак?
- Чаму, на вашу думку, у Канвенцыі аб правах дзіцяці гаворыцца, што дзеці маюць права на здаровы лад жыцця? Што яшчэ, акрамя здаровага харчавання, мае важнае значэнне для здароўя дзіцяці? Растлумачце вучням правы, уключаныя ў тэму «Права на абарону і развіццё».
- Хто вырашае, што вы ясцё на сняданак?
- Што вы можаце зрабіць, каб мець здаровы сняданак?

### 3. Тэст на веданне здаровых звычак

Скажыце вучням, што ў вас для іх ёсць тэст пра здаровыя звычкі. Вы чытаеце ўслых сцверджанне, а яны павінны вырашыць, праўда гэта або не. Калі вучні лічаць, што гэта праўда, то яны мусяць устаць, а калі думаюць, што вы кажаце няпраўду, то ім трэба сесці на кукішкі. Усё мусіць рабіцца хутка.

Прыклады сцверджанняў:
- Курэнне карыснае для здароўя.
- Лішняя вага можа стаць прычынай хваробаў.
- Курэнне дапамагае быць разумным.
- Вялікая колькасць алкаголю карысная для здароўя.
- Фізічныя практыкаванні шкодныя для сэрца.
- Цяжарным жанчынам супрацьпаказаны ровар і фізічныя практыкаванні.
- Ужыванне цукру дапамагае канцэнтрацыі.
- Наркотыкі небяспечныя.

Дадайце вашы варыянты або папрасіце вучняў напісаць па некалькі прыкладаў

Калі хтосьці адказвае няправільна, то ён/яна мусіць сесці на сваё месца, каб пасля заканчэння гульні засталіся толькі пераможцы. Пагаварыце пра тое, якія праблемы са здароўем або звычкі, на іх думку, з'яўляюцца тыповымі для Беларусі.

### 4. Падсумаванне і ацэнка

Абмяркуйце з вучнямі, што яны даведаліся пра здароўе і як яно суадносіцца з правамі дзіцяці з пункту гледжання яго абароны і развіцця. Спытайце, ці спадабалася ім практыкаванне.

ЧЫТАННЕ  АБМЕРКАВАННЕ  ПІСЬМО 

# МАЕ БАЦЬКІ І Я

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1–2 тэматычныя часткі | Вучні шукаюць ў Канвенцыі аб правах дзіцяці артыкулы аб правах дзяцей, звязаныя з бацькамі. На падставе прыкладаў яны абмяркоўваюць, як дапамагчы дзіцяці ў цяжкай сітуацыі ў сям'і | Прачытайце даведку 3. Зрабіце копіі даведкі 4 і тэксту «Кэйт і яе сям'я» | Копіі даведкі 4 і тэксту «Кэйт і яе сям'я». Папера для фліпчарта. Вялікія маркеры |

**МЭТЫ**

- Даведацца аб праве дзяцей жыць з бацькамі і абавязках бацькоў па абароне правоў сваіх дзяцей
- Развагі пра тое, як абараніць найлепшыя інтарэсы дзіцяці
- Развагі пра ролю дзяржавы і іншыя магчымыя спосабы дапамогі дзіцяці ў цяжкай сітуацыі ў сям'і

## ЯК:

### 1. Знаёмства з абавязкамі бацькоў і правамі дзяцей

Раскажыце класу пра Канвенцыю аб правах дзіцяці, выкарыстоўваючы інфармацыю з раздзела «Даведка». Скажыце пра прынцып найлепшых інтарэсаў дзіцяці.

### 2. Знайдзіце і абмяркуйце артыкулы пра бацькоў і сям'ю

Падзяліце вучняў на групы па 3–5 чалавек. Раздайце ім кароткую версію Канвенцыі з даведкі 4, а таксама поўную версію дакумента.

Раскажыце вучням, што Канвенцыя гарантуе дзецям права на сумеснае пражыванне з бацькамі, а таксама на догляд і абарону з боку бацькоў. Папрасіце групы знайсці ўсе артыкулы, якія апісваюць правы дзяцей, што тычацца бацькоў і сям'і, а таксама абавязкаў бацькоў па абароне правоў дзяцей.

Вучні павінны прачытаць і абвесці маркерам адпаведныя артыкулы. Пасля гэтага групы мусяць абмеркаваць наступныя пытанні:

- Чаму, на вашу думку, у Канвенцыі аб правах дзіцяці гаворыцца, што дзіця мае права жыць са сваімі бацькамі?
- Чаму, на вашу думку, бацькі павінны несці адказнасць за абарону правоў дзяцей?
- Абмяркуйце, пра якія патрэбы і правы дзіцяці бацькі павінны дбаць і якія правы абараняць.

Вучні з кожнай групы расказваюць пра артыкул, які яны знайшлі. Працягвайце, пакуль не будуць знойдзены ўсе артыкулы. Спытайце ў вучняў, што яны абмяркоўвалі.

### 3. Кэйт і яе сям'я

Папрасіце вучняў застацца ў групах. Скажыце ім, што ў адпаведнасці з Канвенцыяй, калі бацькі не ў стане выконваць свае абавязкі ў адносінах да правоў сваіх дзяцей, дзяржава абавязана ўмяшацца, каб папярэдзіць жорсткае абыходжанне, злоўжыванні, голад і г.д.

Скажыце вучням, што забяспечыць найлепшыя інтарэсы дзіцяці няпроста. Часта неабходна выбіраць паміж рознымі правамі. Напрыклад, калі дзіця знаходзіцца ў складанай сямейнай сітуацыі, мы мусім выбіраць паміж правам дзіцяці жыць са сваімі бацькамі і іншымі правамі на абарону і развіццё.

Раздайце копіі тэксту «Кэйт і яе сям'я».
Папрасіце групы прачытаць тэкст.

Папрасіце групы абмеркаваць наступныя пытанні і запішыце адказы на вялікім аркушы паперы:

- Якія з правоў Кэйт не абаронены?
- Што яе бацькі павінны зрабіць, каб абараніць яе правы? Ці могуць дапамагчы іншыя сродкі ў сям'і?
- Якім чынам дзяржава можа падтрымаць бацькоў, каб яны маглі абараніць правы Кэйт?
- У якіх сітуацыях, на вашу думку, парушэнні правоў дзіцяці з'яўляюцца настолькі сур'ёзнымі, што дзяржава вымушана забраць дзіця ад бацькоў? Які гвалт, жорсткае абыходжанне, адсутнасць догляду? Наколькі сур'ёзныя парушэнні?
- Куды дзяржава мусіць аддаць дзіця, якое забіраюць ад бацькоў, каб яно атрымала найлепшыя ўмовы для абароны і развіцця? Якое гэта можа быць месца?

Замацуйце аркушы на сцяне і папрасіце кожную групу патлумачыць, што яны думаюць пра адзін з пунктаў.

### 4. Падсумаванне і ацэнка

Скажыце вучням вярнуцца на свае месцы. Папрасіце іх спытаць у суседа па парце, што ён думае пра гэтае практыкаванне і што новага ён даведаўся аб правах дзіцяці.

СТАРОНКА ДЛЯ КАПІРАВАННЯ

ЧЫТАННЕ

# КЭЙТ І ЯЕ СЯМ'Я

**Кэйт і яе сям'я**

Кэйт 8 гадоў і яна жыве з двума малодшымі братамі і бацькамі ў маленькай кватэры.
Бацька Кэйт толькі што страціў працу, таму што завод, на якім ён працаваў, быў вымушаны звольніць некалькі рабочых.

Маці Кэйт застаецца дома, каб даглядаць братоў, якія занадта малыя, каб хадзіць у школу.

У апошні час у сям'і Кэйт было шмат праблем, таму што маці Кэйт вельмі хворая, а ў бацькоў няма дастаткова грошай, каб купляць ежу і плаціць за кватэру пасля таго, як бацька Кэйт страціў працу.

За апошні месяц Кэйт была ў школе ўсяго тры дні, таму што бацька забывае адвесці яе ў школу.
Бабуля Кэйт прыходзіць па нядзелях і гатуе для сям'і ежу. Кэйт любіць сваіх бацькоў,
але ў апошнія некалькі месяцаў яна адчувае недахоп увагі і сум.



АБМЕРКАВАННЕ  ПІСЬМО  ТВОРЧАСЦЬ  РУХ 

# СКАЖЫ «НЕ» ЗДЗЕКАМ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| ½–2 сесіі | Практыкаванне складаецца з трох частак, якія могуць выконвацца па чарзе. Вучні абмяркоўваюць, што значыць добры і дрэнны аднакласнік, а таксама разыгрываюць сцэнку пра здзекі | Прачытайце даведкі 3 і 4 | Калі спатрэбяцца ілюстрацыі: рознакаляровыя ручкі або часопісы і нажніцы |

**МЭТЫ**

- Вербалізаваць паняцці «добрага» і «дрэннага» аднакласніка
- Прыйсці да згоды адносна таго, якім мусіць быць ідэальны клас

## ЯК[23]:

### 1. Што значыць «добры аднакласнік»? (30 хв.)

Абмяркуйце з класам, што значыць «добры» і «кепскі» сябар.

Падзяліце вучняў на групы па 3–4 чалавекі.

Папрасіце іх адказаць на наступныя пытанні:
1. Што значыць «добры аднакласнік»?
2. Чаму важна быць добрым аднакласнікам?
3. Чаму важна мець добрых аднакласнікаў?
4. Калі цябе можна назваць кепскім аднакласнікам?
5. Што адбываецца, калі ты кепскі аднакласнік?
6. Чаму людзі здзекуюцца з іншых?
7. Як мы сябе адчуваем, калі з нас здзекуюцца?
8. Як мы сябе адчуваем, калі мы здзекуемся з іншых?
9. Як вы разумееце, што іншаму чалавеку кепска, калі з яго здзекуюцца?

Спытайце ў вучняў, што яны зрабілі ў апошні час для таго, каб быць добрымі аднакласнікамі.

Папрасіце кожную групу скласці спіс з пяці пунктаў, якія пачынаюцца са словаў: «Я добры аднакласнік, калі...». Вучні могуць сказаць гэта ўслых або намаляваць на паперы.

Скажыце групам прадставіць свае спісы.



### 2. Ролевая гульня на тэму здзекаў (45 хв.)

Кожная група выбірае адну з двух наступных сітуацый:

*A. «Дзяўчынку цкуюць аднакласнікі. Група хлопчыкаў дражніць яе, а адзін з іх забірае ў яе кнігу. Калі яна спрабуе забраць кнігу, хлопцы пачынаюць перакідваць кнігу паміж сабой».*

*B. «Па дарозе ў школу хлопчык сустракае дзвюх дзяўчат з свайго класа. Адна з іх лідарка, а другая менш актыўная. Дзяўчынкі дражняць хлопчыка, таму што ён носіць брэкеты. Яны смяюцца з яго і фатаграфуюць яго на свае тэлефоны, кажучы, што выставяць фота ў Інтэрнэце, каб паказаць, што ён няўклюда».*

Кожная група павінна падрыхтаваць інсцэніроўку, дзе яны іграюць ролі ў адпаведнасці з сітуацыяй, у тым ліку адзін або некалькі аднакласнікаў, якія з'яўляюцца сведкамі канфлікту. Кожная група рыхтуе дзве сцэнкі: адну – дзе сведкамі з'яўляюцца кепскія аднакласнікі, а другую – добрыя.

Папрасіце групы разыграць сітуацыі. Спытайце, што яны адчувалі, калі ігралі ролю добрага/дрэннага аднакласніка. Вы таксама можаце абмеркаваць і інсцэніраваць іншыя рашэнні да сітуацый.

### 3. Правілы добрых паводзінаў у класе (30 хв.)

Разам з вучнямі сфармулюйце правілы паводзінаў у класе, напрыклад: «Мы не будзем крыўдзіць адзін аднаго» або «У кожнага павінен быць сябар». Магчыма, для гэтага вам спатрэбяцца малюнкі або выразкі з часопісаў.

Важна, каб вучні самі вырашылі, якія правілы ў іх будуць. Разам прадстаўце правілы, напрыклад прачытайце іх услых і павесьце на бачным месцы.

Напрыканцы паспрабуйце адказаць на наступныя пытанні:

- Чаму важна мець правілы паводзінаў?
- Што вы можаце зрабіць, калі хтосьці не паважае правілы?
- Як мы можам дапамагчы адзін аднаму, каб выконваць правілы?




# ГВАЛТ І ЖОРСТКАЕ АБЫХОДЖАННЕ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка | Вучні вызначаюць, што з'яўляецца гвалтам або жорсткім абыходжаннем, а што не. Групы абмяркоўваюць сітуацыі і магчымыя спосабы іх вырашэння | Падумайце аб тым, што вашы вучні ведаюць пра гвалт і жорсткае абыходжанне. Зрабіце копіі старонкі «Вызначаем гвалт і жорсткае абыходжанне». Прачытайце даведкі 3 і 4. | Копіі старонкі «Вызначаем гвалт і жорсткае абыходжанне» |

**МЭТЫ**

- Вызначыць формы гвалту і дзеянні па яго папярэджанні
- Вызначыць формы жорсткага абыходжання і дзеянні па яго папярэджанні
- Веданне спосабаў дапамогі ахвярам гвалту

## ЯК[24]:

### 1. Вызначаем гвалт

Коратка раскажыце вучням аб розных формах гвалту (гл. блок з тэрмінамі).

Раздайце копіі старонкі «Вызначаем гвалт і жорсткае абыходжанне». Папрасіце вучняў прачытаць сцэнарыі і пазначыць адпаведны варыянт: фізічны гвалт, эмацыянальны гвалт, сэксуальны гвалт або наогул не гвалт. Таксама можна паставіць галачку ў калонцы «не ведаю».

Пасля таго, як вучні запоўняць табліцу, агучце адказы разам з класам. Спачатку спытайце ў вучняў, якія сітуацыі яны дакладна не лічаць гвалтам, а таксама якія сітуацыі яны дакладна лічаць пэўнай формай гвалту або жорсткага абыходжання. Пасля гэтага абмяркуйце сітуацыі, у якіх яны не ўпэўнены. Важна, каб вучні выказалі свае ўласныя адносіны і каштоўнасці.

**ПАРАДА!**
Майце на ўвазе, што некаторыя дзеці могуць быць ахвярамі гвалту або кепскага абыходжання дома або ў іншым месцы. Сачыце за рэакцыяй дзяцей. Выкарыстайце перапынак, каб такія вучні мелі магчымасць падысці і пагаварыць з вамі.

### 2. Прыклады гвалту і жорсткага абыходжання

Падзяліце вучняў на групы па 3–4 чалавекі. Растлумачце, што яны павінны вызначыць сітуацыі прымянення гвалту або кепскага абыходжання, пра якія яны чулі або бачылі на вуліцы, дома або, напрыклад, па тэлевізары. Палова групы павінна абмеркаваць прыклады гвалту, а другая палова — прыклады кепскага абыходжання. Кожная група мусіць знайсці рашэнне для сітуацыі і намаляваць ілюстрацыю для гэтага прыкладу.

Па чарзе падыдзіце да кожнай з груп і абмяркуйце іх ілюстрацыі. Спытайце іх, як сітуацыя можа быць вырашана без гвалту або як спыніць гвалт ці кепскае абыходжанне ў дадзенай сітуацыі.

Замацуйце ілюстрацыі на сцяне і папрасіце кожную групу прадставіць свой малюнак і апісаць тое, што можна зрабіць, каб вырашыць сітуацыю без гвалту або спыніць гвалт ці кепскае абыходжанне. Папрасіце астатнюю частку класа прыдумаць свае прапановы.

Пагаварыце з вучнямі пра тое, што дзеці могуць зрабіць, калі яны становяцца ахвярамі гвалту або кепскага абыходжання і г.д.:
- Сказаць, што нельга быць жорсткім.
- Расказаць сябру, які можа дапамагчы распавесці дарослым.
- Расказаць дарослым, якіх вучань ведае і якім ён давярае, напрыклад класнаму кіраўніку.
- Расказаць іншым дарослым: людзям, якія ўмеюць дапамагаць дзецям, або, напрыклад, патэлефанаваць на дзіцячую лінію дапамогі па тэлефоне 8-801-100-1611.

### 3. Падсумаванне і ацэнка

Папрасіце вучняў адказаць на наступныя пытанні і падзяліцца сваімі меркаваннямі ў парах:
- Што вы думаеце пра гэтае практыкаванне?
- Вам знаёмыя апісаныя сітуацыі?

**Азначэнні гвалту і кепскага абыходжання:**
- Фізічны гвалт: напрыклад, калі каго-небудзь б'юць, штурхаюць, трымаюць гвалтам і г.д. Фізічны гвалт з'яўляецца найбольш заўважнай формай гвалту, паколькі ён пакідае сляды на целе, напрыклад сінякі і інш.
- Эмацыйны гвалт: напрыклад, калі каго-небудзь прыніжаюць, здзекуюцца, размаўляюць непаважліва, пагражаюць або караюць, зачыняючы ў пакоі. Эмацыянальны гвалт заўсёды прысутнічае, калі дзеці падвяргаюцца фізічнаму гвалту.
- Сэксуальны гвалт: напрыклад, калі каго-небудзь прымушаюць або ўгаворваюць да палавых зносінаў; мацаюць за палавыя органы; прымушаюць глядзець, як хтосьці распранаецца, або глядзець порна і інш.
- Кепскае абыходжанне: калі людзі, якія павінны клапаціцца пра дзіця, не выконваюць свае абавязкі. Напрыклад, калі дзіця часта кладзецца спаць без вячэры, не мае цёплай вопраткі ўзімку, калі бацька ігнаруе дзіця. Кепскае абыходжанне падобнае на эмацыянальны гвалт, але таксама ўключае ў сябе матэрыяльныя рэчы, такія, як ежа, адзенне, гігіенічныя сродкі і г.д.

# СТАРОНКА ДЛЯ КАПІРАВАННЯ

ЧЫТАННЕ



## ВЫЗНАЧАЕМ ГВАЛТ І КЕПСКАЕ АБЫХОДЖАННЕ

Адзначце, да якіх катэгорый адносяцца наступныя сітуацыі.

| | | Фізічны гвалт | Эмацыйны гвалт | Сэксуальны гвалт | Кепскае абыходжанне | Не гвалт | Не ведаю |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Бацькі Данііла часта сварацца пасля таго, як ён кладзецца спаць. Але ён чуе, як яны б'юцца і ламаюць рэчы. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 2. | Маргарыта любіць гуляць у футбол, хоць яе маці заўсёды кажа ёй, што яна кепска гуляе. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 3. | У сям'і Арыны ніколі не вячэраюць. Па вечарах Арына есць чыпсы. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 4. | На Каляды Антон вельмі хацеў атрымаць камп'ютар, але замест гэтага бацькі купілі яму новыя футбольныя буцы. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 5. | Даша дражніла маленькіх дзяцей на дзіцячай пляцоўцы. За гэта маці ўдарыла яе па твары. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 6. | Цімохаў бацька часта пагражае збіць яго, але ніколі гэтага не робіць. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 7. | Старэйшы брат крычыць на Улада, калі той параніўся і пачынае плакаць. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 8. | Ноччу, калі Света начуе ў доме сваёй сяброўкі, бацька сяброўкі дакранаецца да яе грудзей і геніталій. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 9. | Раман забыўся купіць малако па дарозе дадому са школы. За гэта айчым замкнуў яго ў пакоі без вячэры. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 10. | Юрась мерзне, калі ідзе ў школу, таму што яго бацькі забыліся купіць яму куртку. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 11. | Калі Каця не мые посуд, бацька б'е яе ці малодшую сястру Каці. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |
| 12. | Сусед Лявона прымушае яго глядзець, як той мастурбуе. | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ | ☐ |








# ПАБУДУЕМ ГОРАД

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка – 1 дзень | Вучні будуюць мадэлі гарадоў з рознымі формамі кіравання | Збярыце «будаўнічыя матэрыялы» для чатырох мадэляў горада і знайдзіце чатыры пакоі | Чатыры торбы з аднолькавымі «будаўнічымі матэрыяламі», напрыклад кардон, папера, клей, клейкая стужка, фарбы, галінкі і інш. |

**МЭТЫ**

- Зразумець, што такое дэмакратыя і якія ў дэмакратыі перавагі
- Атрымаць уяўленне аб розных формах кіравання
- Зразумець сутнасць права на ўдзел

## ЯК[25]:

### 1. Будуем гарады

Падзяліце клас на чатыры групы і скажыце, што кожная група павінна пабудаваць мадэль горада. У іх ёсць каля 25 хв. для выканання гэтага задання.

У кожнай групы мусіць быць асобны пакой. Растлумачце вучням, як яны мусяць прымаць рашэнні аб тым, што будаваць, і як гэта зрабіць, у адпаведнасці з падзелам на групы, сфармуляваным ніжэй.

Увага! Не кажыце вучням, як называецца форма кіравання, якую яны павінны змадэляваць у сваёй групе [напісана ў дужках], да заканчэння практыкавання!

- **Група 1.** Выберыце аднаго вучня, які будзе ўсё вырашаць адзін [дыктатура]
- **Група 2.** Перад пачаткам будаўніцтва ў групе мусіць быць створана большасць. Вучні павінны галасаваць за тое, што яны хочуць пабудаваць [улада дэмакратычнай большасці]
- **Група 3.** Усе вучні павінны дамовіцца аб тым, што яны хочуць пабудаваць, перш чым пачаць будаўніцтва [кансенсус]
- **Група 4.** Ніхто не можа вырашаць за іншых і кожны можа пабудаваць тое, што хоча [анархія]

Пакуль вучні працуюць, падыходзьце да розных груп і падтрымлівайце іх форму кіравання. Звярніце ўвагу на рэакцыю і каментарыі вучняў, каб потым можна было абмеркаваць іх паводзіны.

### 2. Прэзентацыя гарадоў

Калі час скончыўся, усе групы збіраюцца ў класе і прадстаўляюць свае гарады.

**ТЭРМІНЫ**

*Розныя формы кіравання*

- Дыктатура — форма кіравання, дзе ўся ўлада знаходзіцца ў руках аднаго чалавека, якога называюць дыктатарам
- Дэмакратыя — улада народа; рашэнні прымаюцца большасцю
- Кансенсус — павінна быць згода паміж усімі вучнямі ў класе або людзьмі ў супольнасці
- Анархія — адсутнасць кіравання, бязладдзе

### 3. Падсумаванне і ацэнка

Скажыце вучням, што ў кожнай групы была розная форма кіравання. Запішыце формы кіравання на дошцы.

Спытайце ў вучняў:

- Што было самым простым, а што самым цяжкім у працы з вашай формай кіравання?
- Ці быў ваш спосаб будаўніцтва горада ўдалым?
- Ці быў ён справядлівым?
- Спытайце пра іх рэакцыю, напрыклад: «У нейкі момант, вы, здаецца, былі крыху расчараваны. Чаму?»

Пагаварыце з вучнямі пра тое, што яны адчувалі, калі будавалі свае гарады. Вы можаце таксама спытаць пра плюсы і мінусы розных формаў кіравання. Абмяркуйце, якія формы кіравання могуць быць у розных месцах, такіх, як дом, клас, школа, Беларусь, свет.

**ІДЭЯ**

Калі ваш клас вялікі, вы можаце падзяліць вучняў на некалькі груп. Такім чынам, некаторыя формы кіравання будуць вывучацца некалькімі групамі.



АБМЕРКАВАННЕ 

ТВОРЧАСЦЬ 

# МЯНЯЕМ МЕРКАВАННЕ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| ½–1 тэматычная частка | Вучні займаюць пазіцыю па тэме, абмяркоўваюць яе і, магчыма, мяняюць сваё меркаванне па нейкім пытанні | Знайдзіце тэму для абмеркавання, якая найлепш падыходзіць вашаму класу. Прачытайце даведкі 3 і 4. Раздрукуйце даведку 4 | Копіі «шкалы адносінаў» (гл. ніжэй). Раздрукоўкі даведкі 4 |

**МЭТЫ**
- Сфармуляваць уласнае меркаванне і ўмець абараніць яго
- Навучыцца слухаць аргументы іншых людзей і выказваць згоду або нязгоду
- Навучыцца ўзважваць аргументы і, магчыма, мяняць сваю пазіцыю па пэўнай тэме

## ЯК[26]:

### 1. Выберыце тэму для абмеркавання

Выберыце тэму для абмеркавання, якая найлепш падыходзіць для вашага класа, напрыклад:
- Свет быў бы лепшым, калі б зніклі ўсе канфлікты.
- Хворыя курцы павінны быць у канцы спісу чакання бальніц.
- Дзеці не павінны рабіць хатнія заданні — усе хатнія заданні павінны выконвацца ў школе.
- Настаўнікі павінны звязацца з бацькамі, калі вучань спазніўся ў школу.

### 2. Выбар пазіцыі і яе абарона

Раздайце паперкі з «шкалой адносінаў»:

Сцверджанне: ............................................................

............................................................

............................................................

Цалкам згодны | Нейтральны / не ўпэўнены | Не згодны

\+ --------------------------- 0 -------------------------- -

Прачытайце ўслых сцверджанне па тэме абмеркавання, якую вы выбралі. Вы можаце або дазволіць вучням абмеркаваць тэму на працягу некалькі хвілін са сваім суседам, або адразу папрасіць іх заняць пэўную пазіцыю па гэтым пытанні. Яны выбіраюць пазіцыю, адзначаючы крыжыкам месца на «шкале адносінаў», якое найбольш адпавядае іх меркаванню наконт сцверджання.

Скажыце вучням, што яны могуць змяніць меркаванне, калі захочуць. Дзеля гэтага ім проста трэба паставіць крыжык у іншым месцы.

### 3. Абмеркаванне і дэбаты

1-ы раўнд. Папрасіце вучняў знайсці кагосьці, хто падзяляе іх пазіцыю па тэме. У вучняў ёсць 2–3 хв., каб абмеркаваць сваю пазіцыю.

2-і раўнд. Папрасіце вучняў знайсці кагосьці, хто мае іншую пазіцыю па тэме. У вучняў ёсць 2–3 хв., каб абараніць сваю пазіцыю.

3-і раўнд. Вучні вяртаюцца да таго, хто падзяляе іх пазіцыю, і высвятляюць, ці змянілася іх меркаванне.

Пасля гэтага абмяркуйце ўсім класам наступныя пытанні:
- Ці памяняў хтосьці сваё меркаванне?
- Што паўплывала на тое, што пазіцыя змянілася?
- Ці было цяжка слухаць аргументы іншых, а потым змяніць сваё меркаванне? Чаму?

### 4. Падсумаванне і ацэнка

Раздайце копіі даведкі 4 і папрасіце вучняў знайсці і прачытаць артыкулы ў Канвенцыі аб правах дзіцяці, якія важныя для забеспячэння права дзіцяці на ўдзел у жыцці грамадства (арт. 12, 13, 15 і 17).

Абмяркуйце разам з вучнямі:
- Чаму гэтыя правы важныя для дзяцей і падлеткаў?
- Як выкарыстоўваць гэтыя правы ў паўсядзённым жыцці (у школе, дома, у грамадстве і г.д.)?

**ІДЭЯ**
Знайдзіце іншыя спрэчныя тэмы для абмеркавання ў класе, напрыклад: алкаголь і наркаманія, дзіцячая праца, смяротнае пакаранне і г.д.

АБМЕРКАВАННЕ  ТВОРЧАСЦЬ 

# ДОСТУП ДА ІНФАРМАЦЫІ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1–2 тэматычныя часткі | Вучні абмяркоўваюць віды СМІ і якую інфармацыю ў іх можна знайсці. Потым яны робяць сваю ўласную газету на тэму правоў дзяцей, выкарыстоўваючы старыя газеты | Знайдзіце і прачытайце поўны тэкст адпаведных артыкулаў аб доступе да інфармацыі. Зрабіце прэзентацыю ў PowerPoint або раздрукуйце тэкст для кожнай групы.<br>Зрабіце копіі даведкі 4.<br>Знайдзіце матэрыялы для газеты.<br>Зрабіце таблічкі з надпісам «Цэнзура» | 2 аркушы паперы для фліпчарта для кожнай групы.<br>Сцікеры/кавалачкі паперы.<br>1 копія даведкі 4 для кожнай групы.<br>Стос старых газет.<br>Клейкая стужка, маркеры, нажніцы, клей, папера фармату А3.<br>Пазнакі з надпісам «Цэнзура» |

**МЭТЫ**

- Навучыцца фармуляваць важнасць сродкаў масавай інфармацыі і доступу да інфармацыі
- Разуменне важнасці доступу да інфармацыі як гаранты роўнасці доступу да іншых правоў

## ЯК[27]:

### 1. Раскажыце пра практыкаванне

Раскажыце пра паняцце доступу да інфармацыі ў межах Канвенцыі аб правах дзіцяці і адпаведныя артыкулы з Канвенцыі і іншых дакументаў (гл. раздзел «Даведка» і блок даведкі ў практыкаванні). Акрамя таго, апішыце, як гэтае паняцце суадносіцца з свабодай выказвання меркаванняў.

### 2. Вызначаем віды СМІ

Падзяліце вучняў на групы па 3–5 чалавек і раздайце ім аркушы паперы.

Папрасіце групы зладзіць мазгавы штурм, каб узгадаць як мага больш назваў СМІ, якія яны ведаюць. Вучні сядаюць вакол аркуша і адначасова запісваюць назвы, імкнучыся ахапіць як мага больш розных відаў СМІ, у тым ліку друкаваныя (газеты, часопісы, кнігі), тэлебачанне і радыё, інтэрнэт-СМІ (блогі, сацыяльныя сеткі) і г.д.

Пасля гэтага папрасіце групы абмеркаваць наступныя пытанні:

- Якія сродкі масавай інфармацыі з'яўляюцца неад'емнай часткай вашага жыцця?
- Ці чытаюць вашы бацькі газеты або часопісы? Чаму?
- Што значыць для нас мець магчымасць глядзець навіны, выходзіць у Інтэрнэт і чытаць газеты?

### 3. Знайдзіце прыклады важнай інфармацыі

Раздайце групам сцікеры і папрасіце іх зрабіць наступнае:

**ДАВЕДКА**

**Доступ да інфармацыі** – гэта права на атрыманне інфармацыі без умяшальніцтва з боку органаў дзяржаўнай улады. Недахоп інфармацыі можа абмежаваць здольнасць чалавека жыць так, як ён хоча, і браць удзел у жыцці грамадства.

Доступ да інфармацыі ўключае права шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любога кшталту. Яно цесна звязана са свабодай выказвання меркаванняў і правам выяўляць сябе свабодна вусна, пісьмова, шляхам мастацтва, літаратуры і г.д.

Аднак інфармацыя або сродкі самавыяўлення не могуць парушаць правы іншых людзей, уяўляць пагрозу нацыянальнай бяспецы, грамадскаму парадку, здароўю або грамадскай маралі.
Нацыянальнае заканадаўства таксама часта абмяжоўвае заклікі да нацыянальнай, расавай або рэлігійнай нянавісці, варожасці або гвалту.

Права на доступ да інфармацыі разглядаецца ў Канвенцыі аб правах дзіцяці (арт. 13), Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека (арт. 19), Міжнароднай канвенцыі аб грамадзянскіх і палітычных правах (арт. 19) і Еўрапейскай канвенцыі аб правах чалавека (арт. 10).

- Кожны вучань самастойна запісвае 3–5 прыкладаў інфармацыі, доступ да якой ім было б важна мець (або адсутнасць якой была б для іх крытычнай).
- Прыклады: інфармацыя, важная для жыцця і смерці, асабістай бяспекі, здароўя, інфармацыя пра прыродныя або тэхнагенныя катастрофы; інфармацыя, важная для ўдзелу ў жыцці грамадства, школы і працоўных адносін; веды пра навакольны свет, культурную ідэнтычнасць; індустрыю забаваў і г.д.
- Вучні па чарзе кладуць аркушы на стол і прадстаўляюць іх групе.
- Уся група разам спрабуе згрупаваць і класіфікаваць сцікеры і прыдумляе загаловак для кожнай групы.
- Вынікі абмеркавання прэзентуюцца класу.

### 3. Робім газету

Раздайце групам копіі даведкі 4, старыя газеты, нажніцы, маркеры і г.д., і папрасіце іх зрабіць газету на тэму правоў дзяцей фармату А3, выкарыстоўваючы выразкі са старых газет.

- Прачытайце даведку 4.
- Прагледзіце газеты і выражце артыкулы, звязаныя з правамі чалавека. Артыкулы могуць быць звязаныя з правамі, якімі карыстаюцца, правамі, якія парушаюцца, або правамі, якія абараняюцца.
- Напішыце назву і намалюйце лагатып газеты на аркушы паперы фармату А3. Пад назвай размясціце артыкулы, пазначыўшы права, з якім звязаны кожны артыкул.

### 4. Прэзентацыя і падсумаванне

Павесьце газеты на сцяне і папрасіце вучняў падысці і прачытаць газеты іншых груп. Пасля гэтага яны мусяць абмеркаваць тое, што прачыталі. Потым прымацуйце вялікі надпіс «Цэнзура» на некаторыя газеты, каб іх немагчыма было прачытаць.

Абмяркуйце разам з класам:

- Ці лёгка было знайсці артыкулы, звязаныя з правамі чалавека?
- Ці было прасцей вызначыць некаторыя правы, чым іншыя?
- Якую ролю адыгрывае права на доступ да інфармацыі ў дачыненні да іншых правоў?
- Што б было, калі б частка інфармацыі, якую вы сабралі, была падвергнута цэнзуры?

**ІДЭЯ**

Калі ў вас ёсць час, вы можаце папрасіць вучняў напісаць аўтарскую калонку для сваёй газеты, у якой будуць адлюстраваныя погляды групы на пытанне абмежаванняў на доступ да інфармацыі, а таксама абгрунтаванне магчымых прычынаў такіх абмежаванняў.

Каб дапамагчы вучням, скажыце ім, што некаторыя лічаць, што абмежаванні на доступ да інфармацыі неабходныя для абароны чалавечай годнасці, бяспекі або прыватнага жыцця. Іншыя лічаць, што права на атрыманне інфармацыі мусіць быць неабмежаваным і ўсе веды мусяць быць даступныя грамадскасці, а патэнты і аўтарскія правы трэба адмяніць.

АБМЕРКАВАННЕ  ТВОРЧАСЦЬ 

# ПЛАНУЕМ ЗМЕНЫ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1–4 тэматычныя часткі | Вучні прапаноўваюць ідэі і плануюць, як зрабіць класны пакой лепшым | Падумайце пра ініцыятывы, якія маглі б зрабіць клас лепшым. Прачытайце даведкі 3 і 4 | Сцікеры. Копіі пытанняў (гл. тэкст) |

**МЭТЫ**

- Навучыцца планаваць і ажыццяўляць дзеянні, якія могуць прывесці да пазітыўных зменаў
- Уменне браць на сябе адказнасць за клас, грамадства і г.д.
- Уменне аналізаваць і крытычна ацэньваць уласныя ідэі
- Паказаць, што вучні могуць уплываць на прынятае рашэнняў

## ЯК[28]:

### 1. Раскажыце пра практыкаванне

Растлумачце вучням, што яны павінны прыдумаць ідэі, як зрабіць клас больш прыдатным для іх саміх. Скажыце ім, што мэта практыкавання ў пошуку вучнямі рашэнняў і іх рэалізацыі.

Заўвага: сумесная адказнасць навучэнцаў, якая мае важнае значэнне ў гэтым практыкаванні, таксама можа быць інструментам для вырашэння іншых пытанняў у класе, такіх, як здзекі/хуліганства, вандалізм або кепскія паводзіны.

### 2. Мазгавы штурм

Спытаеце вучняў, што трэба, каб зрабіць клас лепшым. У вучняў ёсць 5–10 хв., каб напісаць свае ідэі на сцікерах. Пасля гэтага вучні прымацоўваюць свае сцікеры на дошцы і вывучаюць прапановы іншых. Папрасіце кожнага вучня прадставіць свае ідэі ўсяму класу. Аб'яднайце падобныя прапановы.

### 3. Ствараем план дзеянняў

Растлумачце вучням, што яны павінны выбраць ідэю, якую хочуць рэалізаваць. У адпаведнасці з выбранымі ідэямі вучні павінны абмеркаваць у групах пытанні, пералічаныя ніжэй.

Важна, каб вучні самі знайшлі адказы і рашэнні да пытанняў. Такім чынам, вучні будуць адчуваць, што яны бяруць на сябе адказнасць за ацэнку таго, якія ідэі рэальна рэалізаваць.

Групы павінны адказаць на наступныя пытанні:

*а. Апішыце ідэю:*
- У чым сутнасць ідэі?
- Хто выйграе ад рэалізацыі ідэі?
- Якія ёсць спосабы вырашэння праблемы?

*б. Ацаніце ідэю:*
- Каго закране рэалізацыя ідэі?
- Ці з'яўляецца ідэя важнай у адносінах да іншых ідэяў?
- Ці з'яўляецца ідэя рэалістычнай?
- Ці трэба нам прасіць у каго-небудзь дазволу і ці можа хто-небудзь нам дапамагчы рэалізаваць ідэю?
- Што я або мае аднакласнікі можам зрабіць, каб рэалізаваць ідэю?
- Ці трэба каму-небудзь даваць грошы для таго, каб ідэя была рэалізаваная?

*в. Складзіце план рэалізацыі ідэі:*
- Хто мусіць браць удзел у рэалізацыі?
- Што павінна быць зроблена?
- Колькі гэта будзе каштаваць?

*г. Рэалізацыя плана*
- Размеркаванне функцый
- Важна, каб функцыі былі справядліва размеркаваныя паміж усімі вучнямі ў групе

*д. Ацаніце вынікі:*
- Як адбывалася рэалізацыя?
- Што атрымалася, а што не вельмі?
- Ці атрымаў хто-небудзь карысць ад рэалізацыі плана?

### 4. Падсумаванне і ацэнка

Абмяркуйце з вучнямі наступныя пытанні:
- Што вы думаеце пра практыкаванне?
- Ці было цяжка прыдумаць ідэі?
- Растлумачце, што гаворыцца ў Канвенцыі аб праве на ўдзел у прыняцці рашэнняў і ўдзеле дзяцей.

**ІДЭЯ**
Вы таксама можаце засяродзіцца на мясцовай супольнасці або мясцовых асацыяцыях і папрасіць вучняў знайсці і рэалізаваць захады, каб зрабіць іх лепшымі.







# УЗОР ДЛЯ ПЕРАЙМАННЯ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1–2 тэматычныя часткі | Вучні запрашаюць у клас людзей, якія могуць быць прыкладам для пераймання | Падумайце, якіх людзей можна запрасіць на урок | |

**МЭТЫ**

- Зразумець, што кожны чалавек мае значэнне
- Навучыцца атаясамліваць сябе з іншымі

## ЯК[29]:

### 1. Азначэнне прыкладу для пераймання

Раскажыце пра паняцце «ўзор для пераймання» (г.зн. чалавек, які можа быць добрым і натхняльным прыкладам для іншых).

Растлумачце вучням, што яны павінны знайсці каго-небудзь, хто можа натхніць іх зрабіць штосьці дзеля правоў дзяцей, для вашага горада, супольнасці, свету.

Арганізуйце мазгавы штурм на тэму таго, якіх цікавых людзей яны ведаюць, хто змагаўся за свае правы або ажыццяўляў іх, і каго яны маглі б запрасіць на ўрок або ў школу.

Хай вучні сумесна вырашаць, каго запрасіць у якасці ўзораў для пераймання.

Разам са сваімі вучнямі запрасіце аднаго або некалькіх чалавек на Дзень натхнення. Кожны вучань можа скласці ліст-запрашэнне, які вы пасля выкарыстаеце пры напісанні сумеснага ліста ад усяго класа.

Папрасіце гасцей падрыхтаваць кароткую прэзентацыю, калі гэта магчыма, з малюнкамі, гукам і дапаможнымі матэрыяламі. Прапануйце ім дапамагчы парадамі і вопытам, а таксама папрасіце іх быць адкрытымі для пытанняў.

### 2. Падрыхтоўка візіту

Падзяліце клас на групы, кожная з якіх павінна падрыхтаваць прэзентацыю госця і пытанні да яго. Вучні мусяць прачытаць прэзентацыі сваім аднакласнікам. Пасля гэтага вы вырашаеце, як прадставіць госця.

### 3. Візіт госця

Арганізуйце тэматычнае свята і, калі магчыма, запрасіце на яго іншыя класы і бацькоў.

Выберыце вучня, які будзе прадстаўляць госця.

Госць распавядае пра сваё жыццё і адказвае на пытанні вучняў. Пасля гэтага пытанні задаюць бацькі і іншыя вучні.

### 4. Падсумаванне і ацэнка

Абмяркуйце з вучнямі, што яны даведаліся ад госця, і ці ведаюць яны, як яны могуць выкарыстоўваць гэты вопыт у сваім жыцці.

**Ідэі**

- Калі вы запрасілі некалькі гасцей адначасова, падзяліце вучняў на групы і папрасіце гасцей паразмаўляць з групамі па чарзе. Гэта дазволіць вучням задаць больш пытанняў.
- Госцем мусіць быць хтосьці, з кім вучні могуць сябе атаясаміць і хто мог бы разбурыць (свядома ці несвядома) пэўныя чаканні вучняў. Было б ідэальна запрасіць некалькіх гасцей, пажадана розных людзей — маладых і старых, мужчын і жанчын, гарадскіх і сельскіх жыхароў і г.д.
- Госцем таксама можа быць прадстаўнік грамадскай арганізацыі, які дабіўся поспеху ў сваёй працы.

АБМЕРКАВАННЕ  ПІСЬМО  ТВОРЧАСЦЬ 

# КАНСТЫТУЦЫЯ КЛАСА

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 2 тэматычныя часткі | Вучні ствараюць канстытуцыю свайго класа, якая апісвае іх правы і абавязкі | | Папера для фліпчарта і ручкі |

| МЭТЫ |
|---|
| • Знаёмства з правамі і абавязкамі як часткай паўсядзённага жыцця<br>• Разуменне таго, што на сваё жыццё можна ўплываць<br>• Актыўны ўдзел у стварэнні і ўзгадненні набору правілаў і абавязкаў у класе |

## ЯК[30]:

### 1. Пішам канстытуцыю класа

Спытайце ў вучняў аб іх вопыце і разуменні правілаў і абавязкаў. Пагаварыце з вучнямі пра тое, якія правілы яны ведаюць. Папрасіце іх завяршыць наступныя сказы:

- «Я не маю права біць людзей, калі я злуюся, таму што...»
- «Я не маю права абыходзіцца з людзьмі несправядліва, таму што...»

Запішыце сказы на дошцы. Скажыце вучням памяняць сказы на сцвярджальныя.

- «Я маю права, каб мяне не білі».
- «Я маю права на добрае абыходжанне».

Падзяліце вучняў на невялікія групы, кожная з якіх павінна прапанаваць класу 3–4 правы.
Яны павінны выкарыстоўваць фразу «Кожны чалавек мае права...».
Напрыклад, «Кожны чалавек мае права казаць нешта ў класе».
Можна запісваць ці маляваць толькі тыя правы, з якімі пагадзілася ўся група.

### 2. Прэзентацыя прапановаў

Кожная група распавядае па чарзе, якія правы яна выбрала для класа. Запішыце правы ў табліцу на аркушы паперы, як паказана ніжэй.

| Канстытуцыя класа | |
|---|---|
| **Правы** | **Абавязкі** |
| Кожны чалавек мае права на справядлівае/добрае абыходжанне | У мяне ёсць абавязак ставіцца да ўсіх справядліва/добра |
| Кожны чалавек мае права выказваць сваё меркаванне | Я павінен даць кожнаму права выказваць сваё меркаванне |

Пасля таго, як кожнае права запісана, вучні павінны сказаць, які абавязак усе мусяць забяспечыць, каб кожны мог карыстацца гэтым правам. Дадайце адказы ў калонцы «Абавязкі».

Пасля таго, як прапановы ўсіх груп запісаны, клас павінен паспрабаваць выпрацаваць калектыўную канстытуцыю для класа.

Абмяркуйце з класам:

- Ці могуць некаторыя з гэтых правоў і абавязкаў быць аб'яднаны?
- Ці можам мы абысціся без некаторых з іх?
- Ці існуюць якія-небудзь іншыя правы і абавязкі, якія мы можам дадаць?

Завяршыце абмеркаванне пытаннямі аб тым, што будзе пасля таго, як канстытуцыя прынята:

- Ці гатовыя вучні выконваць правілы, якія яны прыдумалі самі?
- Хто сочыць за выкананнем вучнямі канстытуцыі класа?
- Што адбываецца, калі хтосьці парушае адно з правоў?

Запішыце тэкст канстытуцыі і павесьце яго ў класе. Растлумачце вучням, што цяпер гэта іх калектыўныя правілы працы і сумеснай вучобы і што яны адносяцца як да вучняў, так і да настаўнікаў.

### 3. Падсумаванне і ацэнка

Абмяркуйце з вучнямі наступныя пытанні:

- Ці лёгка было распрацаваць спіс правоў і абавязкаў?
- Ці былі нейкія прапановы, па якіх групы не змаглі дамовіцца? Чаму?
- Што вы даведаліся пра сябе падчас гэтага практыкавання?
- Што вы даведаліся аб правілах і абавязках?
- Параўнайце канстытуцыю вашага класа з Канвенцыяй аб правах дзіцяці.

**ІДЭІ**

- Вы можаце праілюстраваць канстытуцыю малюнкамі і аплікацыяй.
- Калі ў класе ўзнікаюць канфлікты ці праблемы, вы можаце звярнуцца да канстытуцыі класа.

АБМЕРКАВАННЕ



ТВОРЧАСЦЬ



# СУМЕСНАЯ АДКАЗНАСЦЬ ЗА НАВУЧАННЕ

| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1 тэматычная частка | Вучні працуюць у групах і прапануюць, як палепшыць урокі | Вазьміце вялікі ліст паперы (напрыклад, фармату А3). Намалюйце кола ў цэнтры і некалькі квадратаў вакол яго, каб колькасць квадратаў адпавядала колькасці вучняў у групе. Зрабіце па адной копіі для кожнай групы. Прачытайце даведкі 3 і 4 | Папера фармату А3 або іншыя вялікія аркушы паперы |

**МЭТЫ**

- Выклікаць пачуццё ўласнасці і ўплыву на працэс навучання
- Навучыцца выказваць згоду і нязгоду, а таксама працаваць разам, каб знайсці супольнае рашэнне

## ЯК[31]:

### 1. Раскажыце пра практыкаванне

Падзяліце вучняў на невялікія групы па 4–5 чалавек. Дайце кожнай групе аркуш паперы з колам у сярэдзіне і 4–5 квадратамі вакол кола.

Растлумачце класу, што яны павінны выступіць з прапановамі аб тым, як зрабіць урокі больш захапляльнымі, або аб тым, што яны хацелі б уключыць у будучы план урокаў, напрыклад тэмы, віды практыкаванняў і г.д.

### 2. Праца ў групах

Папрасіце вучняў запісаць прапановы ў адным з квадратаў. У іх ёсць 5 хвілін.

Пасля гэтага кожны вучань па чарзе прадстаўляе сваю прапанову ўсёй групе. Група абмяркоўвае прапанову і, калі ўсе лічаць, што гэта добрая ідэя, перасоўвае прапанову ў кола.

### 3. Падсумаванне і ацэнка

Папрасіце групы прэзентаваць свае прапановы і растлумачыць, што азначаюць ілюстрацыі ў коле.

Абмяркуйце з класам:

- Як вучні бачаць свае магчымасці ўплываць на ўрокі?
- На якія іншыя праблемы/задачы яны хацелі б мець магчымасць уплываць?
- Пагаварыце з вучнямі аб праве на ўдзел у прыняцці рашэнняў і праве на ўдзел, якія ўключаны ў Канвенцыю аб правах дзіцяці, і абмяркуйце, што азначаюць гэтыя правы.














# ШТО Я ДАВЕДАЎСЯ?



| ПРАЦЯГЛАСЦЬ | КАРОТКАЕ АПІСАННЕ | ПАДРЫХТОЎКА | МАТЭРЫЯЛЫ |
|---|---|---|---|
| ½–1 тэматычная частка | Вы можаце выбраць адно або некалькі практыкаванняў: абмеркаванне ў коле, спісы або маляванне | Праглядзіце свае планы да курсу | Папера фармату А3 для кожнай групы. Рознакаляровыя ручкі |

**МЭТЫ**

- Падсумаванне таго, што вучні даведаліся, і ўсведамленне пачуцця выкананага абавязку
- Атрымаць уяўленне аб тым, што вучні даведаліся
- Падумаць аб тым, як палепшыць вашу праграму навучання, і вызначыць тэмы для ўключэння ў наступны раз
- Даць вучням сумесную адказнасць за ўключэнне іх у працэс навучання



## ЯК:

### 1. Двайное кола[32]

Зрабіце невялікае рэзюмэ праграмы вашага курсу, падкрэсліваючы тэмы і практыкаванні, якія вы рабілі разам. Вы таксама можаце папрасіць вучняў дапамагчы з напісаннем рэзюмэ.

Папрасіце вучняў падзяліцца на дзве роўныя часткі і стаць у форме кола. Першая палова вучняў утварае кола, стоячы тварамі ад цэнтра акружнасці. Другая палова ўтварае кола вакол першага кола, каб іх твары былі звернутыя адзін да аднаго.

Папрасіце вучняў стаяць адзін перад адным у парах і падзяліцца па чарзе найбольш важнымі рэчамі, якім яны навучыліся. Праз некаторы час папрасіце вучняў у вонкавым коле зрабіць адзін крок направа і пагаварыць з новым партнёрам аб тым, чаму яны навучыліся. Пасля некалькіх раўндаў вы мяняеце тэму, а вучні мяняюць партнёраў, напрыклад:

- Найгоршым было...
- Самым цікавым было...
- Я хачу больш даведацца пра...

Абыдзіце пары і паслухайце вучняў. Дапамажыце ім, калі неабходна. Падвядзіце вынікі. Папрасіце вучняў падзяліцца некаторымі з рэчаў, якія яны пачулі.

### 2. Павуцінне са словаў[33]

Падзяліце вучняў на групы па 4–5 чалавек.
Дайце кожнай групе аркуш паперы фармату А3 і чатыры каляровыя ручкі кожнаму вучню.

Папрасіце вучняў напісаць «Правы дзіцяці» або адну з тэмаў, з якімі вы працавалі на працягу курсу, у выглядзе кола ў цэнтры аркуша (напрыклад, удзел і інклюзіўнасць, здзекі, адсутнасць дыскрымінацыі і г.д.). Пачынаючы ад цэнтра, яны павінны падзяліць паперу на трохкутнікі (асноўныя ніткі ў павуцінні), колькасць якіх мусіць адпавядаць колькасці людзей у групе.

Пасля гэтага кожны вучань у групе выбірае тэму або праблему, якая тычыцца курсу па правах дзяцей, і запісвае яго ў верхняй частцы свайго трохкутніка. Потым вучні малююць лінію пад ім і паварочваюць аркуш, каб кожны наступны вучань атрымаў новую тэму. Кожны вучань запісвае штосьці, што ён даведаўся па абранай тэме. Праз некалькі хвілін яны малююць новую лінію, паварочваюць аркуш зноў, і кожны з іх дадае нешта новае да наступнай тэмы. Працягвайце практыкаванне, пакуль усе вучні не напішуць штосьці ў кожнай тэме.

Абмяркуйце разам з класам павуцінне, якое атрымалася ў кожнай з груп.

### 3. Заплечнік правоў[34]

Папрасіце вучняў намаляваць сябе з вялікім заплечнікам, які змяшчае тое, што яны даведаліся аб правах дзіцяці.

Потым яны павінны намаляваць усё, што яны хочуць забраць дадому, і тое, што яны хочуць мець у жыцці, напрыклад кнігі або фота, пачуцці, людзей, ідэі, новыя спосабы зірнуць на свет, інструменты і навыкі, якія яны набылі, або каштоўнасці і ўстаноўкі.

Яны таксама могуць намаляваць пад заплечнікам тое, што яны хочуць пакінуць. Гэта могуць быць шкодныя звычкі, старыя ідэі, цяжкія моманты, дрэннае асяроддзе навучання, стомленасць і г.д.

Змясціце малюнкі на дошцы або сцяне і абмяркуйце іх разам.

**Іншыя ідэі для практыкаванняў па ацэнцы**

- Знайдзіце і прынясіце шмат паштовак або іншых малюнкаў у клас. Папрасіце кожнага вучня выбраць адну паштоўку, якая, на яго думку, сімвалізуе тое, чаму ён навучыўся падчас курсу.
- Раздайце па два сцікеры кожнаму вучню і папрасіце іх напісаць самае галоўнае, што яны даведаліся, на першым сцікеры і калі і як яны будуць выкарыстоўваць гэта ў будучыні – на другім. Вучні прадстаўляюць свае сцікеры па чарзе і замацоўваюць іх на сцяне або вялікім аркушы паперы.
- Кожны вучань піша на аркушы паперы штосьці, што яму падабаецца або было важным у праграме курсу, ці штосьці, што можна было б зрабіць па-іншаму. Яны перадаюць аркуш наступнаму вучню, які чытае тое, што напісаў папярэдні, і, калі ён згодны з напісаным, ставіць на ім пазнаку, калі не, то проста перадае яго далей і чытае наступнае сцверджанне. Збярыце адказы і абмяркуйце іх разам з класам.

# СПІС ЛІТАРАТУРЫ




Abelsen, Abia & Parnuna Egede et al. (2012): **«Jeg har rettigheder!»**, MIPI, MIO & ICC Greenland

Byskov, Jonna & Marianne Keinicke (2003): **«Handicappet – og hva' så?»**, Alinea

Council of Europe (2009): **«Compasito – Manual on human rights education for children»** http://www.eycb.coe.int/compasito/default.htm

Council of Europe (2002): **«Compass – Manual on human rights education for young people»** http://www.eycb.coe.int/compass/en/content.html

Danish Center for Teaching Environment: **«Den Gode Samtale»**, http://dcum.dk/sammen-mod-mobning/den-gode-samtale

Danish Institute for Human Rights & Ungdomsbyen (2011): **«Indskoling – Demokrati Fordi»**

Danish Psychiatry Fund: **«Tal om det»**, www.tabu.dk/forside/laerere/hjaelp-dine-elever/gode-raad-til-samtalen.aspx

Decara, Cecilia (2011): **«Børns rettigheder – Undervisningsmateriale til mellemtrinnet 4.-6. kl.»**, the Danish Institute for Human Rights

European Youth Centre (1995): **«All different – All equal, Education Pack»** http://www.eycb.coe.int/edupack/default.htm

Folkeskolen (Elementary School): **«Sådan underretter du»**, 07-2014

Herlufsen, Kristian (2012): Feature about child labour at www.samvirke.dk

International Labour Organization (2009): **«World Day Against Child Labour»**

International Labour Organization (2005): **«Ukraine: Child Labour in Mining»**, http://www.ilo.org/global/about-the-ilo/multimedia/video/video-news-releases/WCMS_067902/lang--en/index.htm

Jensen, Signe Bøtter (2013): **«Sundhed og trivsel – Sund kost»**, www.emu.dk

Jensen, Line Holst & Mette Wybrandt (2010): **«Værktøjskassen Forældremødet»**, the Danish Ministry of Refugees, Immigrants and Integration; Amondo/Azena

Kagan, Spencer & Jette Stenlev (2006): **«Cooperative Learning»**, Alinea

NIRAS (2011): **«Børn Si'r Til – Materiale fra 11 dialogmøder med børn om voksnes vold mod børn»**

Nørgaard, Cecilie & Bonnie Vittrup (2014): **«Vold – Lærerkatalog»**, Danner

OHCHR (2004): **«ABC Teaching Human Rights – Practical Activities for Primary and Secondary Schools»**, Center for Teaching International Relations

Rasmussen, Maria Løkke (2014): **«Sæt børns rettigheder på skoleskemaet – Et undervisningsmateriale for yngste – og mellemtrinnet»**, the Danish Institute for Human Rights & Greenlands Children's Rights Institution.

Rasmussen, Maria Løkke (2012): **«The Human Rights Education Toolbox – A practitioners guide to planning and managing human rights education»**, the Danish Institute for Human Rights

Rasmussen, Maria Løkke & Mette Wybrandt (2011): **«Medborger Værktøjskassen»**, Amondo and the Danish Institute for Human Rights

World Association of Girl Guides and Girl Scouts (2002): **«Our rights, Our Responsibilities»**, http://www.wagggsworld.org/en/resources/publications/programmes

Wybrandt, Mette & Sara Hedegaard Jensen (2013): **«Inkluderende læringsmiljø»**, Amondo

Zarrehparvar, Mandana (2011): **«Drop Diskrimination - Øvelseskatalog»**, the Danish Institute for Human Rights

Zarrehparvar, Mandana (2011): **«Drop Diskrimination-Begrebskatalog»**, the Danish Institute for Human Rights

# ЗНОСКІ І СПАСЫЛКІ

[1] Дэкларацыя аб адукацыі і падрыхтоўцы ў галіне правоў чалавека. Артыкул 3:

1. *Адукацыя і падрыхтоўка ў галіне правоў чалавека – гэта працэс, які доўжыцца на працягу ўсяго жыцця і які тычыцца ўсіх узростаў.*

2. *Адукацыя і падрыхтоўка ў галіне правоў чалавека датычацца ўсіх слаёў грамадства на ўсіх узроўнях, у тым ліку дашкольнай, пачатковай, сярэдняй і вышэйшай адукацыі, і прадастаўляюцца, калі гэта магчыма, з улікам акадэмічнай свабоды, ахопліваючы пры гэтым усе формы адукацыі, падрыхтоўкі і навучання як у дзяржаўным, так і ў прыватным, фармальным, інфармальным або нефармальным кантэксце. Яны ўключаюць, сярод іншага, прафесійную падрыхтоўку, асабліва падрыхтоўку інструктараў, выкладчыкаў і дзяржаўных службовых асоб, бесперапынную адукацыю, асвету насельніцтва, а таксама грамадска-інфармацыйную і тлумачальную дзейнасць.*

[2] Дэкларацыя аб адукацыі і падрыхтоўцы ў галіне правоў чалавека. Артыкул 2:

1. *Адукацыя і падрыхтоўка ў галіне правоў чалавека ахопліваюць усе віды выхаваўчай, прафесійна-адукацыйнай, інфармацыйнай, асветніцкай і вучэбнай дзейнасці, накіраванай на заахвочванне ўсеагульнай павагі і захавання ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод і, такім чынам, дзейнасці, якая спрыяе, сярод іншага, прадухіленню парушэнняў правоў чалавека і злоўжыванняў імі дзякуючы фармаванню ў індывідаў адпаведных ведаў, уменняў і ўяўленняў і пры дапамозе развіцця іх здольнасцяў і паводзін з мэтай забеспячэння для іх магчымасці ўносіць свой уклад у стварэнне і заахвочванне ўніверсальнай культуры правоў чалавека.*

2. *Адукацыя і падрыхтоўка ў галіне правоў чалавека ахопліваюць: a) адукацыю па правах чалавека, якая ўключае ў сябе забеспячэнне ведаў і разумення нормаў і прынцыпаў правоў чалавека, каштоўнасцяў і механізмаў іх абароны, якія ляжаць у іх аснове; b) адукацыю пры дапамозе правоў чалавека, якая ўключае ў сябе вучэнне і выкладанне такімі метадамі, пры якіх паважаюцца правы як выкладчыкаў, так і навучэнцаў; c) адукацыю ў імя правоў чалавека, якая ўключае ў сябе надзяленне індывідаў магчымасцямі карыстацца сваімі правамі і ажыццяўляць іх, а таксама паважаць і падтрымліваць правы іншых.*

[3] Падрыхтавана на аснове выдання The Human Rights Education Toolbox, Rasmussen, 2012

[4] Падрыхтавана на аснове выданняў Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Inkluderende læringsmiljø, Wybrandt & Jensen, 2013; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[5] Падрыхтавана на аснове выданняў Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011 и Inkluderende læringsmiljø, Wybrandt & Jensen, 2013

[6] Падрыхтавана на аснове выданняў Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; The Human Rights Education Toolbox, Rasmussen, 2012; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[7] Падрыхтавана на аснове выданняў Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Værktøjskassen Forældremødet, Jensen & Wybrandt, 2010; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[8] Падрыхтавана на аснове выданняў Den Gode Samtale, Danish Center for Teaching Environment; Tal om det, Danish Psychiatry Fund; Sådan underretter du, Folkeskolen, 2014; Vold, Nørgaard & Vittrup, 2014; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[9] Падрыхтавана на аснове публікацый на сайтах: http://analysesiden.dk/digtanalyse/ и http://www.nlb.by/portal/page/portal/index/content?lang=en&classId=3A77D98E3EFF44C694C6ACE136B943AD

[10] Падрыхтавана на аснове выданняў Compasito, Council of Europe, 2009; Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[11] Падрыхтавана на аснове выдання David Shiman: ABC Teaching Human Rights - Practical Activities for Primary and Secondary Schools, OHCHR, 2004

[12] Падрыхтавана на аснове выданняў Børns rettigheder – Undervisningsmateriale til mellemtrinet 4.-6. kl., Decara, 2012; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[13] Падрыхтавана на аснове выданняў World Association of Girl Guides and Girl Scouts, 2002; Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[14] Падрыхтавана на аснове выданняў All Different – All Equal, European Youth Centre, 1995; Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[15] Падрыхтавана на аснове выданняў All Different – All Equal, European Youth Centre, 1995; Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[16] Падрыхтавана на аснове выданняў Drop Diskrimination – Øvelseskatalog og Begrebskatalog, Zarrehparvar, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[17] Падрыхтавана на аснове выданняў Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014; Handicappet – og hva' så?, Byskov & Keinicke, 2003; Jeg har rettigheder!, Abelsen, 2012

[18] Падрыхтавана на аснове выдання Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[19] Падрыхтавана на аснове выданняў World Day Against Child Labour, International Labour Organization, 2009; Jeg har rettigheder!, Abelsen, 2012; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[20] Пераклад з дацкай мовы паводле Kristian Herlufsen, Mød 7 børnearbejdere i Bangladesh, www.samvirke.dk

[21] Падрыхтавана на аснове публікацыі Ukraine: Child Labour in Mining, International Labour Organization, 2005

[22] Падрыхтавана на аснове выданняў Sundhed og trivsel – Sund kost, Jensen, 2013; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[23] Падрыхтавана на аснове выданняў Indskoling – Demokrati Fordi, the Danish Institute for Human Rights & Ungdomsbyen, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[24] Падрыхтавана на аснове выданняў Compasito, European Council, 2009; Børn Si'r Til, NIRAS, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[25] Падрыхтавана на аснове выданняў Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014.

[26] Падрыхтавана на аснове выданняў Cooperative Learning, Kagan, 2006; Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[27] Падрыхтавана на аснове выданняў Freedom of Expression teaching material for 7-10th grade, Amnesty Denmark, 2015; Compasito: Manual on human rights education for children, Council of Europe, 2009

[28] Падрыхтавана на аснове выданняў Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Inkluderende læringsmiljø, Wybrandt & Jensen, 2013; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[29] Падрыхтавана на аснове выданняў Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[30] Падрыхтавана на аснове выданняў Cooperative Learning, Kagan, 2006; Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[31] Падрыхтавана на аснове выданняў Medborger Værktøjskassen, Rasmussen & Wybrandt, 2011; Inkluderende læringsmiljø, Wybrandt & Jensen, 2013; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[32] Падрыхтавана на аснове выданняў Compass, Council of Europe, 2002; Cooperative Learning, Kagan, 2006; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[33] Падрыхтавана на аснове выданняў Cooperative Learning, Kagan; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014

[34] Падрыхтавана на аснове выданняў Compass, Council of Europe, 2002; Sæt børns rettigheder på skoleskemaet, Rasmussen, 2014